№ 28 (817) 31 ліпеня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адно… маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Шпіёны там, шпіёны тут

Гутарка з маці арыштаванага ксяндза Уладзіслава Лазара. Старонка 3.



## Хто жыве ў «доме Чыжа»?

Самы дарагі шматпавярховік краіны абжываюць бізнэсоўцы і хакеісты. Старонка 6.



# Пагроза стабільнасці

«Уралкалій» абвясціў «Беларуськалію» вайну. **Цэны на калій падаюць**, што пагражае бюджэту. **Старонка 4**.



REUTERS

### Здарэнні

Чаму забіў сябе дырэктар гатэля «Планета»

Адстаўны вайсковец выскачыў з восьмага паверха. **Старонка 7.**



### Неймавернае

Пад Докшыцамі злавілі чупакабру

Істота нападала на кароў. **Старонка 8.**



### Літаратура

Зміцер Дашкевіч. Чарвяк

«Пагулялі, і харош!» — агучыў устаноўку прапар. **Старонка 10.**



### Беларуская глыбіня

Бабуля Марыя

Бабуля ўратавала мяне, гадавалага, ад смерці. **Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Колькі трэба набраць, каб паступіць ва ўніверсітэт

Прыходзяць першыя звесткі ўступнай кампаніі-2013.

Пакуль абітурыенты пільна сочаць за тэмпамі падачы дакументаў на платныя месцы ва ўніверсітэтах, некаторыя ВНУ ўжо правялі залічэнне абітурыентаў на «бюджэт».

### У топе — праграмісты і «міжнароднікі»

Высокі бал — паказчык папулярнасці і прэстыжу спецыяльнасці. У гэтым годзе БДУІР трымае планку: праца праграміста, якая можа прыносіць значны прыбытак, прываблівае абітурыентаў. Таму сёлета прахадны бал на спецыялізацыю «інфарматыка і тэхналогіі праграмавання» склаў ашаламляльныя 375 балаў (усяго можна набраць 400) — на 19 болей, чым летась. Пры гэтым лічба ў 375 балаў — паўпрахадны бал. Гэта азначае, што адразу некалькі абітурыентаў з такімі высокімі вынікамі падалі дакументы ва ўніверсітэт.

| ВНУ, спецыяльнасць | Прахадны бал |
|---|---|
| БДУІР, Інфарматыка і тэхналогіі праграмавання | 375 |
| БДУ, лагістыка | 374 |
| Лінгвістычны, міжнародныя камунікацыі | 354 |
| Лінгвістычны, перакладчыцкі факультэт | 351 |
| ГрДУ імя Янкі Купалы, міжнароднае права | 347 (для вясковых — 327) |
| Гомельскі медыцынскі, лячэбны | 260 |
| Віцебскі медыцынскі, фармацэўтычны | 320 (для вясковых — 285) |
| ГрДУ, фізіка | 140 |

У БДУ адбылося залічэнне толькі на некаторыя факультэты, але самы высокі — на папулярную і запатрабаваную спецыяльнасць «лагістыка»: ажно 374 балы, хоць на бюджэт у гэтым годзе бралі толькі 4 чалавекі. Пры гэтым трое з іх паступалі паводле мэтавага набору, а 1 стаў студэнтам без конкурсу.

Чакана высокі бал і ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Абітурыенты, якія вывучалі англійскую мову ў якасці замежнай, мусілі набраць 354 балы, каб трапіць на факультэт міжнародных камунікацый (на бал больш, чым у 2012), ці 351 бал, каб паступіць на перакладчыцкі факультэт.

У абласных ВНУ самыя паспяховыя абітурыенты таксама выбіралі міжнародны кірунак. Так, самай «гарачай» спецыяльнасцю ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы стала «міжнароднае права» з прахадным балам у 347 для абітурыентаў з горада і 327 балаў для абітурыентаў з вёскі.

### Лекары і педагогі адстаюць

А вось для паступлення ў Гомельскі медыцынскі ўніверсітэт дастаткова было набраць 260 балаў (лячэбны факультэт) ці 252 балы (медыка-дыягнастычны факультэт). Такая ж сітуацыя і ў Віцебскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Прахадны бал на лячэбны факультэт для выпускнікоў гарадскіх устаноў адукацыі склаў 274 балы, на фармацэўтычны факультэт — 320 балаў. Пры гэтым розніца паміж «гарадскімі» і «сельскімі» студэнтамі істотная: для навучання на тых самых факультэтах апошнім патрэбна было ўсяго 215 і 285 балаў адпаведна.

Не вельмі ўшанавалі абітурыенты спецыяльнасць настаўніка малодшых класаў: у ГрДУ, дзе на гэтую спецыяльнасць набіралі 15 чалавек, дакументы на яе падалі толькі 14. Неахвотна ў тым жа ГрДУ ідуць і на фізіка-тэхнічны факультэт: прахадны бал на спецыяльнасць «фізіка» склаў 140 і ў параўнанні з мінулым годам панізіўся на адзін пункт.

Кірыла Хілько

## Сцісла

**Электрычнасць даражэе на 14%, ацяпленне — на 9%**

Цеплавая і электрычная энергія для жыхароў Беларусі падаражэе ад 1 жніўня. Адпаведнае рашэнне ёсць у пастанове Савета Міністраў.

**У вёсках ля свінакомплексаў забаранілі трымаць свіней**

Згодна з пастановай Мінсельгасхарчу, знішчаць усіх дзюдзяў у радыюсе пяці кіламетраў ад прадпрыемстваў, незалежна ад таго, ёсць там ці няма ачага афрыканскай чумы свіней.

**Выйшла кніга Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы»**

Сяргей Навумчык быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання і непасрэдна браў удзел у тых векапомных днях 1991 года.

**У Лепелі загінуў дзевяцігадовы веласіпедыст**

61-гадовы мясцовы жыхар, кіруючы аўтамабілем «КІА-Карэнс», учыніў наезд на хлопчыка, які выехаў на праезную частку справа.

**«Белавія» адкрывае рэйс у Жэневу**

Ад 17 снежня злётаць у Швейцарыю можна будзе па аўторках, пятніцах і нядзелях. Цана пералёту ў эканом-класе складзе ад 275 еўра «туды-назад» і ад 248 еўра ў адзін бок.

**Памёр аўтар мегахітоў**

У Каліфорніі памёр спявак і аўтар песняў Джэй Кейл. Яго песні станавіліся хітамі ў выкананні іншых музыкаў — After Midnight, Cocaine, Call Me the Breeze спявалі Эрык Клэптан, Марк Нопфлер. Сам Кейл быць зоркай не імкнуўся: спакойна жыў у Каліфорніі, даваў лакальныя канцэрты, запісаў пятнаццаць альбомаў. Скандалаў не ладзіў, таму не ўяўляў цікавасці для прэсы.

ЛМ, ЮУ

## Падзякі за падтрымку «Нашай Нівы»

В.М. з Лепельскага раёна.
Вадзіму Ш. з Брэста.
Эдуарду С., Аляксандру Р. з Полацкага раёна.
В.Ф. з Гомеля.
Васілію Б., А.Х. з Шчучынскага раёна.
Ігару Л. з Стаўбцоўскага раёна.
Івану С. з Дзятлаўскага раёна.
Т.Ф. з Лідскага раёна.
Юрыю Ч., А.С. з Мазырскага раёна.
В.Г., Сціпану Г., Сяргею С., Анатолю К., Л.А., Г.К., Сяргею К., Т.К. з Мінскага раёна.
Віктару К. з Рэчыцкага раёна.
Сяргею К. з Маладзечанскага раёна.
Вадзіму Б., Мікалаю Ш., Раісе Д. з Салігорскага раёна.
Ю.Б. з Віцебска.
Мікалаю К. з Чэрвенскага раёна.
М.С. з Вілейскага раёна.
Валерыю П., Уладзіміру Б. з Баранавіцкага раёна.
Генадзю К., А.К., В.С., А.П., Г.К., Наталлі Б., Дзмітрыю М. з Гродна.
Мікалаю Б. з Ваўкавыскага раёна.
Андрэю М. з Чашніцкага раёна.
І.Б. з Гродзенскага раёна.
Генадзю Н., Л.Ж., Раману О., Ігару Л., Анастасіі А., Н.Б., Георгію П., Тацяне В., Ірыне К., Анатолю К., Святлане В., А.Дз., В.Л., В.В., Юрыю Л., Г.Ц., Анатолю М., Надзеі Р., Анне Г., Сямёну Л., С.Д., Міхаілу Л., Наталлі З., Ірыне М., Дзмітрыю М., Тацяне К., Мікалаю А., Яўгену Ш., С.Р., Уладзіміру Г., Наталлі М., Юрыю Я., З.Б., Івану Ш., Ірыне Ц., В.М., Алене М., В.Б., Ніне Ш., Інэсе В., Анне Л., М.Ж., Ніне А., Наталлі М., Максіму В., І.Г., Раісе К., Уладзіміру Д., Віктару П., Наталлі Б., Леаніду В., Э.Б., Ігару Б., З.С., Сяргею Я., В.А., Сяргею Р. з Мінска.






Сяргей Гудзілін

### Фотафакт

У гонар 27 Ліпеня, даты, калі была аднаўленая беларуская незалежнасць, хлопцы з кампаніі «Альтэрнатыва» хацелі ўзняць над Мінскам бел-чырвона-белыя сцягі. Іх затрымалі. У выніку Алег Корбан, Зміцер Сільчанка і Алег Кераль былі арыштаваныя на 5 сутак.

27-га сябры моладзевай арганізацыі «Змена» вывесілі бел-чырвона-белы сцяг на электрычцы Маладзечна — Мінск. Цягнік прыбыў у Мінск з нацыянальнай сімволікай.

## Рэкамендуем

**Поспех Навальнага — у інтарэсах Беларусі**

Піша Алесь Чайчыц.

Чытайце на nn.by.

## Самае чытанае на сайце nn.by за 24-30 ліпеня

1 На Віцебшчыне забілі жывёлу-мутанта, якая нападала на кароў
2 У Гомелі забілі дзяўчыну-рэпетытара
3 Як «Саўбелія» рабіла рэпартаж пра нудысцкі пляж — сведчанні відавочца
4 Лёгкаатлетка Талай: "Давайце не будзем падманваць сябе: наш колер — бел-чырвона-белы»
5 Івана Шылу пабілі на салігорскай дыскатэцы з-за капелюша
6 «Пятую калону трэба было ўдавіць»
7 У Мінск у суботу прыехала электрычка пад бел-чырвона-белым сцягам
8 Лукашэнка: Мы зглавілі здрадніка, які праз Касцёл быў звязаны з замежжам
9 Лукашэнка хоча рэфармаваць праваслаўе: «задоўгія малебны, пропаведзі»
10 Сведка: Дырэктар «Планеты» выкінуўся, калі па яго прыехалі ў бронекамізэльках

# Шпіёны там, шпіёны тут

За што арыштавалі **ксяндза Лазара**?

У пятніцу Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання аквапарка «Купалле» паразмаўляў з журналістамі. Сказаў усяго шмат. Напрыклад, што ён разумее ЗША ў справе Сноўдэна, што праваслаўную царкву трэба рэфармаваць, бо службы там задоўгія і царкоўнаславянская мова незразумелая. А яшчэ Лукашэнка агучыў інфармацыю аб арышце шпіёна.

«Мы нядаўна затрымалі аднаго са здраднікаў, які служыў у спецслужбах і які праз прадстаўніка Каталіцкай царквы быў звязаны з замежжам. Ён не толькі здаваў інфармацыю, але ад яго дзейнасці пацярпелі людзі, якія працуюць за мяжой», — адзначыў Лукашэнка.

Усе адразу пачалі гадаць, хто ж гэты таямнічы шпіён, што працаваў на Ватыкан? Спецслужбы адмаўляюцца каментаваць справу. Ніхто са сваякоў затрыманага на сувязь з прэсай ці праваабаронцамі таксама не выходзіў.

Толькі на наступны дзень пасля заявы «Наша Ніва» праз ксяндзоў раскапала, праз каго той «здраднік» мог быць «звязаны з замежжам». Стала вядома, што ўжо 2 месяцы ў турме трымаюць ксяндза Уладзіслава Лазара.

Ад красавіка ён быў пробашчам парафіі Спаслання Духа Святога ў Барысаве, гэта невялікая каплічка на могілках, у глухім месцы. Меркавалася, што на гэтым месцы паўстане паўнавартасны касцёл. Да гэтага айцец Уладзіслаў быў ксяндзом у Мар'інай Горцы і Рудзенску.

Уладзіславу Лазару 46 гадоў. Сам з Маладзечанскага раёна. Адслужыў яшчэ ў савецкім войску. Спачатку на сяржанцкіх курсах у Печах (Барысаў), а пасля сувязістам у Шчучыне. Вучыўся ў вучылішчы мястэчка Бярэзінскае на слесара. Потым навучаўся ў Гродзенскай духоўнай семінарыі.

«Мы некалі жылі ў адным пакоі ў семінарыі, — згадвае адзін з ксяндзоў. — Ён трымаўся з усімі крыху на дыстанцыі. Людзі, якім я давяраю, хвалілі яго як святара і чалавека. Аднак ён ніколі не быў «палітычным», не асабліва цікавіўся грамадска-палітычнымі працэсамі. Мне дзіўна чуць, што Лазар — шпіён. Яго падставілі, з ім гуляюць», — лічыць былы ягоны сусед па пакоі.

«Ён, сапраўды, вельмі разумны, інтэлектуал, добра ведае тэалогію, Святое Пісьмо. Гаворыць вельмі адкрыта і смела, усё, як ёсць. З-за гэтага, напрыклад, сышоў з капуцынаў, выйшла там адна гісторыя», — згадвае іншая знаёмая ксяндза Лазара.

Уладзіслаў Лазар на імшах заўсёды паслугоўваўся беларускай мовай, хоць умеў і па-польску.

Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў Беларусі доўгі час захоўвала ў справе маўчанне. Толькі ў панядзелак было пацверджана, што Лазар сапраўды арыштаваны. Пры гэтым зазначылі, што справай займаецца нунцыятура (пасольства) Ватыкана. Але там ад каментароў адмаўляюцца.

Як вядома, «за сувязь з замежжам» масава арыштоўвалі ксяндзоў у савецкі час. Фактычна, «сувязь з замежжам» мае любы клерык, бо Каталіцкая царква мае свой цэнтр у Ватыкане. Таму арышт выклікаў трывогу між святарамі і вернікамі, а разам з тым — і асуджэнне. Адзін з ксяндзоў, з якім размаўляла «Наша Ніва», сказаў, што гэта наўрад ці можа прывесці да ўзмацнення кантролю над касцёламі: «Думаю, гэты арышт адбыўся, каб ніхто не расслабляўся. Гэта лагічна, каб трымаць усіх у напружанні».

**Зміцер Панкавец**



CATHOLIC.BY

«Шпионы там, шпионы здесь, Без них не встать, без них не сесть», — гэтымі радкамі з савецкага фільма «Д'Артаньян і тры мушкецёры» пракаментаваць гэтую інфармацыю чытач нашага сайта пад псеўданімам Хвранцуз.

**«Пацярпелі людзі, якія працуюць за мяжой»**

З беларускіх агентаў, што былі арыштаваныя за мяжой, згадваецца толькі выпадак у лістападзе 2006 года. Тады на тэрыторыі Літвы быў арыштаваны грамадзянін Беларусі, які спрабаваў здабыць кампрамат на кіраўнікоў Польшчы. Затрыманне сталася сумеснай акцыяй польскіх і літоўскіх спецслужбаў.

## Маці ксяндза Лазара: «Прычапіліся, адкуль грошы ўзяў»

Мы датэлефанаваліся ў вёску Канюхі (Маладзечанскі раён), дзе нарадзіўся ксёндз Уладзіслаў Лазар. Там па-ранейшаму жывуць ягоныя бацькі.

У вёсцы Канюхі шмат Лазараў. «Добры дзень, шукаем сваякоў ксяндза Уладзіслава Лазара». «Гэта мы», — чуецца ў слухаўцы. «Яніна Станіславаўна, маці Уладзіслава», — прадстаўляецца жанчына.

«Падставілі яго, ён касцёл пабудаваў у Мар'інай Горцы. Такі харошы, такі прыгожы. Біскуп яму прапанаваў у Барысаў паехаць, там таксама трэба касцёл будаваць... Прычапіліся, адкуль грошы ўзяў. Я яму яшчэ тады казала, чаго ты туды паедзеш, ты ж у Мар'інай Горцы так прыгожа ўсё зрабіў».

Гэтыя словы Яніна Станіславаўна вымаўляе яшчэ ў спакоі, а потым зрываецца на слёзы.

### Знік Уладзіслаў Лазар 1 чэрвеня

«Каб вы бачылі толькі, як мы жывём. Ён жа нам ніколі нічым не дапамог. Усё на касцёл пускаў. Казаў, не крыўдуй, мама, але я служу Богу. Ён жа Богу ўсё жыццё аддаў. Усё рабіў і робіць для Бога. Сам у парванай куртцы столькі гадоў хадзіў. Зашые дзе, а новую не купляе. За што яго так мучаюць? Няўжо не апраўдаюць?»

Высвятляецца, што знік Уладзіслаў Лазар 1 чэрвеня. Ён якраз у гэты дзень выехаў ад бацькоў назад у Барысаў. «Усялякая сувязь знікла. Няма і няма. Званілі ў трупярні і па аварыях, і па пажарах. Не ведалі, куды кінуцца. Праз два тыдні ён пазваніў, як дочкі запыт у міліцыю накіравалі. Сказаў толькі, што жывы-здаровы, і папрасіў маліцца за яго. Я па нумары праверыла, дык убачыла, што з міліцыі ён звоніць. Але сам нічога не сказаў. Дочкі мяне супакойвалі, што ён у Польшчу паехаў. А цяпер вось у камп'ютары напісалі, што ён пад арыштам. Няма ніякіх сілаў, ні здароўя. Паеду класціся ў бальніцу. Хоць бы дачакацца, калі яго адпусцяць, не памерці, каб ён мяне сам пахаваў».

«Ён у мяне на рукі вельмі башкавіты, увесь у бацьку, у Мішку майго. Сам усё рабіў пры касцёлах, не глядзеў, што ксёндз. Каменне цягаў, траўку сеяў. Усё рабіў, усё ўмеў. Кніжкі пры гэтым з рук не выпускаў. У школу самым акуратным хадзіў. Я так не ўмела, як ён сабе штаны гладзіў. Яго ў школе мянушка «панюсік» была, гэта значыць «маленькі пан». Усе казалі, што вырасце вялікім чалавекам.

Я не хацела, каб ён ішоў на ксяндза вучыцца. Кажу, гэта ж цяжка. А ён усё адно сказаў, што пойдзе. У Польшчы яму цяжка было, з гэнымі палякамі. А ён усё вытрымаў. У мяне тры ўнукі, дык ён аднаго каля сябе два гады трымаў. Думаў, што стане таксама ксяндзом. А той сказаў, што не, будзе жаніцца. Усе ж яго любілі. Як прыязджала да яго, то рукі-ногі цалавалі.

Які ён шпіён можа быць? Брэд гэта.

Не ведаю ўсё яшчэ за што арыштавалі. Хадзіла да ксяндзоў пыталася, яны таксама нічога не кажуць.

За што Пан Бог такія мучэнні яму дасылае? Але я не скарджуся. Езус таксама цярпеў».

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Ксёндз Караль Тамецкі: Чаго чакаць далей? Праслухоўвання споведзі?

Былы пробашч мсціслаўскага касцёла айцец Караль Тамецкі ў сваім Фэйсбуку рэзка адрэагаваў на сітуацыю з арыштам ксяндза Уладзіслава Лазара. Мы папрасілі святара пракаментаваць для «НН» гэтую справу.

«Гэта вельмі моцны ўдар па інстытуце грамадскага даверу, якім з'яўляецца святарства. Калі, напрыклад, кс. Уладзіслаў на самай справе хтосьці даверыў нейкія звесткі, то лічу, што ён успрыняў іх як святар. Іншага не дадзена, бо на самай справе ён — святар. Выкажам здагадку, што, па словах прэзідэнта, «пацярпелі нашы людзі». Дык, можа быць, больш пацярпелі тыя, хто давяраў Касцёлу? Можа аб'ектам нейкіх аператыўных дзеянняў былі вернікі, а рэлігійныя інстытуты былі прыкрыццём? Чаго чакаць у далейшым? Праслухоўвання споведзі? Патрабаванняў дакладваць пра «здраднікаў» сярод паствы?

Такія рэчы павінны выразна абмяркоўвацца ў міждзяржаўным пагадненні з Ватыканам, пра якое гэтак шмат разважаюць. І той дамовы няма. З другога боку, такім рэчам наогул не можа быць месца ў цывілізаваных адносінах дзяржаўных і рэлігійных інстытутаў. У той жа час, спецслужбы, асабліва савецкага гарту, несумненна разглядаюць рэлігійныя інстытуты як аб'ект сваіх аператыўных дзеянняў. Баюся, што само паняцце свабоды сумлення ў Беларусі з'яўляецца ўсяго толькі псеўдаправавым канструктам, залежным ад меркаванняў работнікаў спецслужбаў».

**Запісаў ЗП**

Каментары

## Помста Касцёлу?

Варта адзначыць цікавае супадзенне датаў. Ксёндз быў затрыманы два месяцы назад. А трохі больш за месяц таму Папа Францішак выказаў сваю сімпатыю тым, «хто пакутуе» ў Беларусі. Гэта прачытвалася як жэст падтрымкі вязням сумлення, у перамовах аб вызваленні якіх пасярэднічала Каталіцкая царква.

Святары лічаць арышт калегі альбо помстай Касцёлу за ягоную ўвагу да палітвязняў, альбо, шырэй беручы, за яго незалежнасць. Каталіцкая царква, у адрозненне ад некаторых іншых канфесій, не дапускае кантролю спецслужбаў над сабой і трымае дыстанцыю ад уладаў.

**Мікола Бугай**

# «Уралкалій» абвясціў «Беларуськалію» вайну

Цэны на калій падаюць, што **пагражае бюджэту.**

Расійскі вытворца калійных угнаенняў «Уралкалій» больш не будзе прадаваць сваю прадукцыю праз Беларускую калійную кампанію (БКК), як раней. Генеральны дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер чакае зніжэння цэнаў на хлорысты калій з цяперашняй спотавай у раёне $400 за тону да ніжэйшай за $300, можа нават да $200.

З ягоных словаў вынікае, што ў найбліжэйшы перыяд вытворцы калію будуць змагацца за перападзел рынкаў.

Раней эксклюзіўным экспарцёрам калійных угнаенняў вытворчасці «Беларуськалія» і «Уралкалія» была БКК. Беларусы і расійцы стварылі яе на парытэтных умовах у снежні 2005. Пагадненні тых часоў мелі часткова палітычную мэту: забяспечыць Мінск ускоснымі субсідыямі, каб на Беларусі спынілася хваля каляровых рэвалюцый.

**Акцыянерамі Беларускай калійнай кампаніі** з'яўляюцца «Беларуськалій» (45%), Беларуская чыгунка (5%) і расійскі прыватны «Уралкалій» (50%) мільярдэра Сулеймана Керымава. На долю кампаніі прыпадала 43% сусветнага экспарту хлоркалію.



**Новы дырэктар**

Алене Кудравец (Барачэні) 42 гады, яна скончыла Старобінскую школу-гімназію (1987), юрфак БДУ (1992). Ад 1992 працавала на «Беларуськаліі» — адметная стабільнасць. Да нядаўняга часу была намеснікам дырэктара, адказвала за маркетынг.

Аднак ў апошні час непаразуменняў паміж партнёрамі станавілася ўсё больш.

Напрыклад, расейцы прапаноўвалі перанесці офіс БКК з Мінска ў Швейцарыю. Гэта б дадавала кампаніі саліднасці і дазваляла не турбавацца наконт магчымых санкцый Еўрасаюза.

Але галоўным было пытанне стратэгічнага развіцця. Беларусам не падабалася, што расейцы рэзка нарошчвалі абароты. У 2011 доля «Уралкалія» з экспарце сумеснай кампаніі складала 40%, а летась — ужо 52%. Уральцы інвеставалі ў новыя руднікі, і ім хацелася атрымліваць прыбыткі з тых інвестыцый.

Да кампрамісу прыйсці так і не ўдалося, хоць апошнія месяцы працавала спецыяльная камісія на чале з Сяргеем Румасам. Яго кантралявалі старшыня КДБ Валерый Вакульчык і старэйшы сын кіраўніка дзяржавы Віктар Лукашэнка (!).

### Хто пачаў першы?

У выніку рада дырэктараў «Уралкалія» абвінавацiла Аляксандра Лукашэнку ў парушэнні прынцыпаў супрацоўніцтва: нібыта «Беларуськалій» прадаваў прадукцыю ў абыход БКК. Такое права кіраўнік дзяржавы надаў сваім загадам мінулай зімой.

Беларусы высунулі прэтэнзію ў адказ: маўляў, гэта менавіта «Уралкалій» гандляваў самастойна, праз сваю кампанію «Уралкалій-Трэйдынг», зарэгістраваную ў Швейцарыі. Прыводзяцца і канкрэтныя лічбы: сёлета ў маі «налева» пайшло 80% расійскага калію.

Рашэнню «Уралкалія» папярэднічала сустрэча яго кіраўніцтва ў беларускай прэзідэнтуры. Прэс-служба Лукашэнкі апублікавала аптымістычную справаздачу з сустрэчы.

Пасля таго спаткання Аляксандр Лукашэнка даў згоду на адстаўку кіраўніка БКК Валерыя Іванова



**Перасеў з калію**

Валерыя Іванова перавялі з калійнай кампаніі ў Адміністрацыю прэзідэнта, намеснікам кіраўніка. Гэты чалавек цікавы тым, што ў свой час быў старшынёй калгаса «Рассвет» — яго адправілі туды пасля таго, як справу завялі на легендарнага старшыню «Рассвета» Васіля Старавойтава. Пасля Іваноў быў старшынёй Шклоўскага райвыканкама. Калі балатаваўся ў дэпутаты, супернік абвінавачваў яго ў фальсіфікацыях.

Аб працы Іванова ў Калійнай кампаніі, Лукашэнка сказаў: «Яму там было цяжка, бо ён з гэтым ніколі не сутыкаўся».

(той перасеў на высокую пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта) і прызначыў новай кіраўніцай Алену Кудравец, гадаванку калійнай сферы. Аднак гэты крок, як відаць, ужо не задаволіў «Уралкалій», які мае свае планы адносна будучыні.

### Гандаль да апошняга

У мінулым уласнікі «Уралкалія» не раз выказвалі жаданне прыватызаваць «Беларуськалій», аднак цану, вызначаную беларускім бокам, — $30 мільярдаў — лічаць завысокай.

Лукашэнка прызнаваў, што яму прапаноўвалі хабар памерам у мільярды даляраў за продаж беларускай здабычы калію па заніжанай цане. Аднак за такую карупцыйную прапанову нікога не арыштавалі.

### Наступствы разводу

Адразу пасля выхаду «Уралкалія» з БКК акцыі кампаніі абваліліся на 24%. Цэннік пачалі выстаўляць купцы, а не прадаўцы, таму цэны на калій таксама зменшыліся.

Калій — другая па значнасці крыніца экспартных даходаў для Беларусі пасля рээкспарту расійскай нафты і нафтапрадуктаў, выробленых з яе. Таму рашэнне «Уралкалія» можа прывесці да моцных катаклізмаў у фінансавай сістэме Беларусі.

Падзенне даходаў ад экспарту калію можа выклікаць рост дэфіцыту плацежнага балансу і дэвальвацыю рубля ў перспектыве наступнага года.

**Сяргей Гезгала**

# Някляеў: «Мяне перавялі з асобнай камеры ў агульную»

Суд Ленінскага раёна Мінска вызваліў былога кандыдата ў прэзідэнты, лідара грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!», вядомага паэта Уладзіміра Някляева ад далейшага адбыцця пакарання за Плошчу-2010. Тады яго прысудзілі да двух гадоў зняволення з адтэрміноўкай на два гады. То бок альбо кандыдат становіцца на шлях выпраўлення, альбо адпраўляецца ў турму.

Някляеў заявіў журналістам, што пакуль не пачуваецца вольным чалавекам. «Мяне перавялі з асобнай камеры ў агульную. У Беларусі ўсе грамадзяне ў пэўным сэнсе вязні і закладнікі, нават нявольнікі», — сказаў ён.

«Я буду паводзіць сябе як вольны чалавек. Калі спатрэбіцца — зноў буду ўдзельнічаць у выбарах», — зазначыў Някляеў.

Цяпер лідар кампаніі «Гавары праўду» зможа вольна наведваць замежжа, а таксама яму не трэба адзначацца штотыдзень у міліцыі.

**Аксана Рудовіч**




Някляеў і адвакатка Тамара Сідарэнка.

**Фотафакт**



Кіраўніцай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» пераабралі Алену Макоўскую (на фота). Усяго ўдзел у з'ездзе узялі 254 дэлегаты. На адкрыцці прысутнічаў міністр культуры Барыс Святлоў. Смелыя дэлегаты прынялі зварот да ўладаў з заклікам вызваліць палітвязняў.

СЕРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Беларусы Казахстана: дапамажыце нам вярнуцца ў Беларусь

Дэлегаты З'езду беларусаў свету выказваліся пра балючыя пытанні ў іх асяродках. У пэўнай ступені нечаканым стала выступленне Міхаіла Шупаева з Астаны.

Ён ад імя беларускай дыяспары Казахстана папрасіў дапамагчы ў вяртанні ў Беларусь — распрацаваць адмысловую праграму для гэтага. Ён адзначыў, што прыехаць у наша краіну на пастаяннае жыхарства хоча шмат беларусаў, бо «мы думаем пра будучыню сваіх дзяцей».

Але ёсць і казахстанскія бізнэсоўцы, гатовыя інвеставаць у нашу эканоміку грошы ў абмен на беларускае грамадзянства. Мяркуючы па словах Шупаева, такіх ахвотных не адзінкі, а значна больш.

Шупаеў прасіў аблегчыць працэдуры і тэрмін атрымання грамадзянства, а таксама прызначыць аднаразовую матэрыяльную дапамогу тым, хто вернецца. А для бізнэсоўцаў — падаткавую палёгку.

«Беларусы баяцца страціць нацыянальную ідэнтычнасць сярод дамінуючых азіятаў. Гэта пытанне фізічнага выжывання», — падсумаваў ён.

**Сяргей Макарэвіч**

# Куды здаваць старыя лядоўні і лямпачкі?

Гэта **трэба здаваць**: батарэйкі, энергаашчадныя лямпачкі, тэлевізары.

На сметнікі трапляе шмат рэчаў і рэчываў, якія туды трапляць не павінны. У плане ўтылізацыі смецця Беларусь застаецца адсталай краінай. А гэта ж грошы! Для дзяржавы і для людзей.

### Лядоўня ці камп'ютар

Што лядоўню, тэлевізар, камп'ютар ці мабільны тэлефон нельга проста вынесці на сметнік, а трэба адмыслова ўтылізаваць, вядома кожнаму еўрапейцу, амерыканцу ці японцу. У беларусаў магчымасць здаць старую бытавую тэхніку ці электроніку на перапрацоўку з'явілася некальки месяцаў таму. Праўда, пакуль прымае тэхніку для ўтылізацыі толькі адно мінскае прадпрыемства.

**Утылізацыя электронікі і бытавой тэхнікі:**

ААТ «БелВТІ»

Мінск, Славінскага, 1

Тэл.: +375 17 267 00 72

www.belvti.com

**Прыём люмінесцэнтных лямпаў, тэрмометраў і аўтамабільных акамулятараў** на ўтылізацыю (Мінск, Брэст, Гродна, Гомель, Віцебск, Магілёў, Маладзечна, Баранавічы, Бабруйск)

ААТ «Белкаштмет»

Тэл.: (017) 503-37-97

www.bcvm.by

**Спіс пунктаў з усталяванымі кантэйнерамі для батарэек** знойдзеце на сайце «Белрэсурсаў» www.belres.by у раздзеле «Другасныя рэсурсы».

Greenmap.by: «Зялёная карта» Мінска, Гродна, Брэста, Наваполацка і Слоніма.

**У Мінску здаць люмінесцэнтныя лямпы** можна ў пажарных аварыйна-выратавальных частках па адрасе: Бетонны праезд, 33, тэл. 208-66-31; вул. Магілёўская, 4а, тэл. 224-35-61; вул. Кнорына, 9, тэл. 280-27-91; пр Дзяржынскага, 77, тэл. 272-58-92; вул. Рыбалкі, 20, тэл. 298-18-49; вул. Бярозагорская, 6, тэл. 279-50-01 і штабе грамадзянскай абароны на вул. Казлова, 26, п.8.



«Насамрэч, асноўны кірунак дзейнасці прадпрыемства — здабыча каштоўных металаў з адкідаў электроннага абсталявання. Мы ўжо 15 гадоў працуем з юрыдычнымі асобамі, буйнымі вытворчымі прадпрыемствамі», — расказаў дырэктар кампаніі «БелВТІ» Аляксандр Кірпічнік падчас невялікай экскурсіі па прадпрыемстве.

«Але толькі сёлета папраўкі ў заканадаўства выдзелілі электроніку і складаную бытавую тэхніку ў асобны від адкідаў, што дазволіла атрымліваць кампенсацыю за іх збор і перапрацоўку. Толькі ў нашага прадпрыемства аказаліся ўсе неабходныя ліцэнзіі на такую дзейнасць. Таму ад 1 красавіка ў нас запрацаваў пункт прыёму бытавой тэхнікі. Нашы абласныя дачынныя і афіліяваныя прадпрыемствы ва ўсіх буйных абласных і раённых гарадах цяпер атрымліваюць ліцэнзіі, неўзабаве непатрэбную тэхніку можна будзе здаць і там».



Тэлевізар, камп'ютар ці мабільны тэлефон нельга проста выкінуць на сметнік

### Вывезуць на таксі

«Ад 1 мая працуе «БелВТІ-таксі». Калі ў вас ёсць буйнагабарытная тэхніка, вы можаце патэлефанаваць нашаму аператару, і цягам некалькіх дзён вашу тэхніку забяруць. Нават знясуць з вашага паверха. Адразу пасля запуску «Таксі» машына ездзіла кожны дзень — было шмат ахвотных. Цяпер выклікаў менш. Мабыць, таму, што сезон адпачынкаў», — паведаміў Кірпічнік.

### Золата!

Зразумела, што перш за ўсё ўтылізацыя адкідаў — гэта бізнэс. Аляксандр расказвае, што з тоны тэхнікі атрымліваецца каштоўных металаў каля 4 грамаў у залатым эквіваленце. «Няшмат, дый каштуе яно даражэй, чым здабытае з зямных нетраў. Аднак гэтае золата не трэба закупляць за мяжой. Ды без утылізацыі яно папросту б адправілася на сметнік. А каб атрымаць кілаграм золата, трэба ў сярэднім перапрацаваць ці 200 тысяч тон руды, ці 70 тысяч тон электронных адкідаў».

Аднак перапрацоўваюцца і чорныя металы, і пластык. На захаванне на смецевых палігонах адпраўляецца толькі 10-15%. Аляксандр задаволены тым, што «адкіднае» заканадаўства развіваецца, прычым у правільным кірунку: увядзенне кампенсацыі ад дзяржавы за збор адкідаў дазволіла новым прадпрыемствам выходзіць на рынак.

### Добры бізнэс

«Ведаю, што многія зацікавіліся гэтым кірункам. Гэта добра, бо манаполія тут не з'яўляецца спрыяльным фактарам. Але дзяржаве таксама трэба адыходзіць ад ролі асноўнага гульца ў гэтай сферы», — кажа ён.

**У Германіі звалак больш не існуе. Усё смецце або перапрацоўваецца, або спальваецца для атрымання цяпла**

У прыклад Аляксандр ставіць Германію, дзе ўжо колькі гадоў звалак не існуе ўвогуле, а ўсё смецце або перапрацоўваецца, або спальваецца на спецыяльных заводах.

«Польшча таксама паказвае нядрэнныя вынікі. У 2007, калі толькі пачаліся праграмы ўтылізацыі электронікі і бытавой тэхнікі, там у год збіралася каля 17% ад колькасці ўсёй новай тэхнікі, якая паступала ў краіну. У мінулым годзе гэты паказчык склаў 30%. У Беларусі планку пакуль усталявана на 10%, і будзем глядзець, ці ўдасца выканаць гэты паказчык».

### Люмінесцэнтная лямпачка

Эканомія рэсурсаў дала штуршок папулярнасці люмінесцэнтным і светадыёдным лямпам. Напрыклад, у Еўрасаюзе выраб і продаж лямпаў напальвання ўвогуле забаронены, бо яны трацяць зашмат электрычнасці.

У Беларусі такой забароны няма, аднак газаразрадныя лямпы папулярныя і прадаюцца паўсюль. На жаль, утылізаваць люмінесцэнтную лямпу не так проста, як набыць. Але ўтылізаваць яе мусова! Бо колба лямпачкі ўтрымлівае выпарэнні ртуці, шкодныя для чалавека.

У Беларусі люмінесцэнтныя лямпачкі на ўтылізацыю прымае «Белкаштмет». На прадпрыемстве паведамілі, што лямпачкі можна здаць у пунктах прыёму ў Мінску, усіх абласных цэнтрах, а таксама ў Маладзечне, Пінску, Оршы, Баранавічах і Бабруйску. У гэтых жа месцах можна экалагічна пазбавіцца ад непатрэбных іртутных тэрмометраў.

Увогуле, люмінесцэнтныя лямпы прымаюць у тых месцах, дзе абсталяваныя сховішчы для адкідаў, што ўтрымліваюць іртуць. У Мінску такія сховішчы акрамя «Белкаштмету» ўсталяваныя ў некаторых частках МНС і штабе грамадзянскай абароны па адрасе вул. Казлова, 26, п. 8. Прымаюць лямпы для ўтылізацыі і некаторыя ЖЭСы. На жаль, поўнага спіса месцаў, куды можна прынесці старыя лямпачкі, не існуе. Таму, калі хочаца ўсё ж утылізаваць, а не выкінуць лямпу, патэлефануйце ў свой ЖЭС, раённае ЖРЭА ці мясцовае ўпраўленне па надзвычайных сітуацыях. Або нясіце лямпачкі ў «Белкаштмет».

Дарэчы, сітуацыя з утылізацыяй люмінесцэнтных лямпаў у хуткім часе можа палепшацца: Брэсцкі электралямпавы завод ужо закупіў лінію па іх утылізацыі і, як паведамілі на заводзе, цяпер ідзе атрыманне ліцэнзіі на ўтылізацыйную дзейнасць. На жаль, на заводзе пакуль не ведаюць, якім чынам будзе арганізаваны збор старых лямпаў. «Будзем супрацоўнічаць з прадпрыемствамі з усёй Беларусі. Але лепш патэлефануйце ў жніўні. Тады сітуацыя мусіць праясніцца», — паведаміў супрацоўнік.

### Акумулятар, батарэйка

Старыя свінцовыя аўтамабільныя акамулятары купляе «Белкаштмет». Гэтае ж прадпрыемства збірае нікель-кадміевыя акамулятары. А вось з маленькімі, але вельмі шкоднымі для прыроды батарэйкамі праблема: беларусы звычайна выкідаюць іх разам з бытавым смеццем, хоць рабіць гэтага нельга. Кадмій і свінец надта шкодныя для арганізму. У Кітаі з ягоным бяздумным прамысловым развіццём ужо цэлая праблема: кадміем забруджаныя гіганцкія тэрыторыі, ад гэтага забруджанымі выходзяць рыс і гародніна.

У Беларусі батарэйкі не перапрацоўваюць, а толькі захоўваюць. У Мінпрыроды паведамілі, што неўзабаве першая партыя скарыстаных батарэек мусіць адправіцца ў Фінляндыю на ўтылізацыю. Да гэтага чакалі, пакуль набярэцца неабходная колькасць батарэек для эканамічна мэтазгоднага іх транспартавання.

Цяпер па ўсёй Беларусі ўсталяваныя 603 кантэйнеры для збору батарэек. Поўны спіс усіх месцаў, дзе можна знайсці кантэйнер, змешчаны на сайце ГА «Белрэсурсы» belres.by.

### «Зялёная карта»

Праблемай беларускай утылізацыі з'яўляецца не толькі яе неразвітасць, але і несвядомасць людзей. Інфармацыйная кампанія не ідзе далей за заклік збіраць паперу, шкло і пластык.

А людзі рэагуюць на канкрэтныя адрасы, куды што несці. Да таго ж, большасць звестак датычыць Мінска.

Пакуль старыя люмінесцэнтныя лямпачкі не прымаюць наўпрост у краме, дзе іх прадаюць, а кантэйнер для старой бытавой тэхнікі не прывозяць штомесяц у кожны двор, краіне бракуе «зялёнай карты», дзе будзе сабрана інфармацыя пра пункты ўтылізацыі адкідаў з усёй Беларусі, на якой можна знайсці бліжэйшы да вашага жытла пункт. Спробы стварыць такую карту былі: на сайце greenmap.by ёсць інфармацыя па Мінску, Гродне, Брэсце, Наваполацку і Слоніме. Аднак агульнарэспубліканскую карту яшчэ не стварыла аніводнае дзяржаўнае міністэрства ці грамадскае аб'яднанне.

**Кірыла Хілько, фота аўтара.**

# Хто жыве ў «доме Чыжа»?

Самы дарагі шматпавярховік краіны абжываюць **бізнэсоўцы, хакеісты**… і выкладчыца Акадэміі кіравання.

Архітэктурнымі сімваламі Мінска 2000-х сталі спрэчная, пампезная Нацыянальная бібліятэка і «Мінск-Арэна», якая была аднагалосна ўхваленая экспертамі.

Самы значны праект пачатку 2010-х — «дом Чыжа» на набярэжнай Свіслачы — выклікае ў людзей аднолькавыя пачуцці. Класік беларускай архітэктуры Леанід Левін лічыць яго безгустоўнай гаргарай, якая разбурае ансамбль цэнтра сталіцы.

Прафесар Сяргей Сергачоў назваў будынак «драмай нашай архітэктуры».

«Мне ён таксама не вельмі падабаецца», — прызнаўся Аляксандр Лукашэнка, які штодня бачыць «дом Чыжа» па дарозе ў рэзідэнцыю.

«Не выключаю: у будучым будзе ўзнята пытанне пра дэмантаж гэтага будынка праз грубае зневажанне гісторыка-культурнай спадчыны», — прадракае кіраўнік таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.



**Геній ці варвар?**

Адным з праекціроўшчыкаў дома па адрасе Старажоўская, 8, вядомага як «Панарама», быў Алег Ладкін. Яго ж паклікалі ствараць і суседні «дом Чыжа».

**Анекдот**

Чым добра жыць у «доме Чыжа»? Гэта адзіная месца ў Мінску, з вокнаў якога не бачна «дома Чыжа»!

### Самыя дарагія кватэры Беларусі

Пакуль мінчукі прыгаломшана глядзяць на 23-павярховы гмах, што навіс над Траецкім прадмесцем, кампанія «Трайпл» мільянера Юрыя Чыжа распрадае апошнія кватэры ў доме. Цана самая высокая ў горадзе — $3 тысячы за квадратны метр. Але на другасным рынку гэтае жыллё прадаецца ўжо па $4 тысячы за метр.

Найменшая па памеры кватэра — аднапакаёўка плошчай каля 65 м². Яе цана складае $200 тысяч. Беларусу з сярэднім заробкам, каб прыдбаць такое жыллё (мінімальнае ў доме!) трэба збіраць грошы на працягу 32 гадоў, не патрацўшы ні рубля. Цана даражэйшых кватэр тым часам дасягае мільёна даляраў. Гэта за голыя сцены. І нават за адсутнасць сценаў — у кватэрах свабодная планіроўка.

За кошт чаго ідзе такая нацэнка? Старажоўка лічылася элітным раёнам яшчэ за савецкімі часамі. Жыллё ў цэнтры горада, з відам на набярэжную Свіслачы... Абы-хто кватэры тут не атрымліваў. Апроч наменклатуры, саветы сялілі тут інтэлігенцыю. Жыллё ў «Доме над Свіслаччу» займелі былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін, рэктар БДЭУ Усевалад Шымаў, пісьменніца Святлана Алексіевіч.

**Шматмільённая кватплата**

Тэхнічнае абслугоўванне «разумнага дома» каштуе каля 6000 за м². У васьміпакаёвых пентхаусах кватплата ўлетку даходзіць да 4 мільёнаў рублёў.

**Без аўкцыёну**

Дом «Ля Траецкага» стаў паспяховым бізнэс-праектам Юрыя Чыжа. Участак пад забудову коштам у дзясяткі мільёнаў даляраў ён атрымаў спецыяльным указам Аляксандра Лукашэнкі, без аніякага аўкцыёну. Узамен Чыж абавязаўся да канца 2011 пабудаваць лядовую арэну ў студэнцкім гарадку. Сёлета коўзанку нарэшце дабудавалі.





**Юрый Чыж**

Самы багаты бізнэсовец Беларусі. Нарадзіўся ў 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна. Закончыў БНТУ. Уласнік рознагаліновай бізнэс-імперыі «Трайпл», мае інтарэсы ў нафтавым сектары, нерухомасці, гандлі, вытворчасці будматэрыялаў, грамадскім харчаванні, турызме, спорце, сельскай гаспадарцы. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі».

**Такая кватэра, як у Чыжа, ужо не прадаецца. Але каштуе каля $900 тысяч.**

Тут здарылася трагедыя Яўгеніі Янішчыц. Лукашэнкаўскі час спарадзіў новых герояў. Тры кватэры былі запісаныя на сваякоў праваслаўнага святара Фёдара Поўнага.

Побач з «Домам над Свіслаччу», фактычна ўпрытык, «Трайпл» вырашыў будаваць свой гмах «Ля Траецкага». Нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў, ушчыльненне пачалося ў 2008. Цяпер будаўнічыя працы скончыліся, у кватэрах робяць аздабленне.

Па словах прадстаўнікоў «Трайпла», кожная кватэра падключаная да сістэмы «разумны дом». Пад'езды нашпігаваныя найноўшай тэхнікай. Напрыклад, праз інтэрнэт гаспадар можа ўбачыць, хто пазваніў яму па дамафоне. Калі прарве трубу, камп'ютар аўтаматычна перакрые ваду. Сістэму вентыляцыі можна настроіць такім чынам, каб кватэра «падагрэлася» да прыходу гаспадара. Усё гэта, вядома ж, незадарма. Камунальныя плацяжы складаюць каля 6000 рублёў за квадратны метр плюс плата непасрэдна за ваду і святло. У выніку за сярэднюю трохпакаёўку за месяц набягае больш за 2 мільёны рублёў.

### Падазроная гендарная роўнасць

Кім трэба працаваць, каб мець магчымасць набыць кватэру за паўмільёна даляраў ці нават за мільён?

«Наша Ніва» прааналізавала спіс уласнікаў 125 кватэр самага дарагога дома краіны (спіс атрыманы з адкрытых крыніц). Каб не парушаць таямніцы прыватнага жыцця, мы называем імёны толькі тых жыльцоў, якія з'яўляюцца публічнымі асобамі.

Высветлілася, што яшчэ з паўсотні кватэр не прададзена, астатняе жыллё набылі юрыдычныя асобы. Нешта пакінуў сабе і «Трайпл». Адну з кватэр, напрыклад, выдзелілі на некалькі месяцаў расійскаму футбалісту Дзмітрыю Сычову, якога ўзяло ў арэнду мінскае «Дынама» Юрыя Чыжа.

Першае, што кідаецца ў вочы — гэта гендарны баланс. Палову ўласнікаў кватэраў складаюць жанчыны. Прапорцыя вельмі дзіўная, бо, напрыклад, у рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсоўцаў Беларусі ў першай сотні чалавек усяго тры жанчыны. Адна з іх, Ірына Саборава (уласніца холдынгу «Белсувязьэнергаашчаджэнне»), дарэчы, набыла кватэру «Ля Траецкага».

Дзясяткі іншых жанчынаўгаспадыняў ніякім чынам не дэманстравалі грамадству свае поспехі. Іх няма ў базах бізнэсуласнікаў, не згадваюцца яны і ў інтэрнэце. Складваецца ўражанне, што гэта фармальныя ўласнікі чужога ці, прынамсі, мужавага ці сынавага дарагога жылля.

### Папулярнасць сярод замежнікаў

Кватэры набылі шматлікія расійскія бізнэсоўцы. Навасібірскі імпарцёр тэхнікі, вытворца глюкометраў, дырэктарка маскоўскага агенцтва нерухомасці... «Дом Чыжа» карыстаўся попытам і ў выхадцаў далёкага замежжа, якія цяпер робяць бізнэс у нашай краіне. Гэта іранец Джамшыд Аміназад, які заснаваў брэсцкую будаўнічую кампанію, дылер БелАЗа ў Кыргызстане і Узбекістане Грант Аганянц, прэзідэнт Асацыяцыі портаў Чорнага і Азоўскага мораў Сааб Роні ды шматлікія арабы і туркі.

### Выкладчыца-мільянерка

Нарэшце, хто з беларусаў набыў самыя прэстыжныя кватэры горада? У спісе былы дырэктар сталічнай турфірмы «Алатан Тур» Аляксандр Няхай, які цяпер валодае рэстаранам «Таварыш», дырэктар футбольнага клуба «Белшына» Алег Гушча, дырэктарка кампаніі «НТС», якая валодае сеткай прадуктовых крамаў «Родная Старонка», Марына Грышчанка.

Сярод рэдкіх прафесій — выкладчыца эканомікі ў Акадэміі кіравання Алена Дадзеркіна, а таксама двухразовая алімпійская медалістка па гімнастыцы Ксенія Санковіч.

Топ-стылістка Марына Херндлхофер і бізнэсовец Рудольф Херндлхофер узялі ажно тры кватэры.

Лукашэнкаўская зборная па хакеі прадстаўленая адразу двума гульцамі. Гэта былы прафесіянал Сяргей Шыткоўскі, а таксама Вадзім Салей, брат славутага хакеіста Руслана Салея, які загінуў у авіякатастрофе, — дырэктар завода эфектыўных прамысловых канструкцый.

Кватэру прыдбала і маладая бізнэс-лэдзі Вікторыя Авяр'янава — дачка ўласніка сталічных будаўнічых рынкаў і парку адпачынку «Дрымлэнд».

### Нічыйныя пентхаусы

Каму ж дасталіся самыя прэстыжныя кватэры на верхніх паверхах? Сярод жыльцоў тут ёсць, напрыклад, Ірына Данская — памятаеце рэкламу пра доктарак Данскіх, якія дапамогуць пазбавіцца ад п'янства, лішняй вагі і курэння?

Як вынікае з нумарацыі кватэр, прыведзенай на сайце забудоўшчыка, два двухузроўневыя васьміпакаёвыя пэнтхаусы — гэта кватэры, якія выкупіла загадкавая інвестыцыйная кампанія. Кватрплата ўлетку тут складае больш за 4 мільёны рублёў!

На паверх ніжэй жыве сузаснавальнік аўтамабільнага холдынгу «Яравіт» Эрнэст Аляксееў, чыя кампанія знаходзіцца ў суседнім доме. Гэта той самы бізнэсоўца, які, пішуць, быў за стырном шыкоўнага «Бэнтлі», што нядаўна згарэў каля аэрапорта «Мінск-2».

А зусім побач ад яго — сам гаспадар дома. Кватэра плошчай больш за 300 м² перапісаная на ягоную жонку, дырэктарку фітнэс-цэнтра Evo — Святлану Чыж.

**Ягор Марціновіч**



# Чаму забіў сябе дырэктар гатэля «Планета»

**Адстаўны вайсковец** выскачыў з восьмага паверха.

60-гадовы менеджар выскачыў з балкона фактычна на вачах у суседзяў.

«У дзень смерці Агірэнку бачылі, калі ён выйшаў з пад'езда, — кажа адзін з жыхароў вуліцы Садовай ва Уруччы, дзе жыў дырэктар. — Але калі ў яго зазваніў мабільнік, ён адказаў і ягоны твар адразу ж ператварыўся ў застылую маску».

Гэта было раніцай. І прыкладна тады ж Агірэнка патэлефанаваў на працу і папярэдзіў, што забавіцца.

Што здарылася пасля таго званка, так і не ясна. Следчыя схіляюцца да версіі самагубства.

Гатэльная справа ў аўтарытарных краінах — занятак спецыфічны. У гасцініцах канцэнтруюцца забавы, прастытуцыя, там адбываецца сачэнне і збор кампрамату. Праца менеджара ў дзяржаўным гатэлі — даволі спецыфічны занятак.

Суседзі Агірэнкі расказваюць пра міліцыянтаў, якіх бачылі ў доме раніцай, перад здарэннем. У Следчым камітэце адмаўляюць: крымінальных справаў супраць Агірэнкі не было, затрымліваць яго не збіраліся. А міліцыя сапраўды двойчы выязджала ў дом на вуліцы Садовай — па выкліку суседзяў. Тыя пабачылі чалавека на восьмым паверсе, які сядзеў на балконе са спушчанымі з парэнчаў нагамі. Калі прыехалі міліцыянты, нікога на балконе ўжо не было. Міліцыя паехала, і ён ізноў з'явіўся. Суседзі зноў патэлефанавалі на 102. Пасля паўторнага выкліку аператыўная група заспела чалавека на балконе. Але пакуль у кватэру падняліся, Агірэнка рынуў уніз.

Вядома, што Валерый Агірэнка — адстаўны вайсковец. У «Планеце» ён адпрацаваў тры гады. Да таго быў намеснікам кіраўніка сталічнага гатэля «Мінск».

**Кастусь Матушыч**



# Сябар забіў гродзенца за аўтамабіль

24-гадовы Аляксандр Белабокі з Гродна **знік 20 ліпеня** разам з машынай «Аўдзі 100».

Аляксандр (на фота) ехаў у машыне з сябрам. Яны курылі спайс (псіхатропнае рэчыва), калі паміж імі ўзнікла сварка, якая перарасла ў бойку. 21-гадовы знаёмец, тройчы судзімы за крадзеж, махлярства і хуліганства, схапіўся за нож.

Некалькі ўдараў — і Аляксандр загінуў. Закапаўшы цела ў лесе, хлопец на чужым аўто з'ехаў у Мінск. Там пакінуў машыну сябру, каб той яе прадаў.

«Ён быў адзіным дзіцем у сям'і. А год таму пахаваў бацьку — хвароба», — кажа сяброўка Вера.

«Саша працаваў інструктарам у аўташколе. Але нядаўна звольніўся. Ён любіў машыны: перыядычна купляў, даводзіў да ладу і мяняў».

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук





**Мужчына і жанчына на фота** падазраюцца ў нападзе на таксіста ў маі мінулага года. 30-гадовы работнік камунальнай службы і 25-гадовая аздабляльніца фасадаў паранілі таксіста нажом і скралі грошы. Міліцыянты мяркуюць, што пара можа мець дачыненне да іншых злачынстваў. Хто пацярпеў ад гэтых людзей, звяртайцеся ў Партызанскае РУУС Мінска: (017) 230-34-34, (029) 883-23-96.




**Жэбрак Іван Іванавіч** 19 чэрвеня пакінуў дом у Ваўкавыску, і больш родныя яго не бачылі. Ён меў намер выехаць у Брэст у расійскае консульства. Прыкметы: на выгляд 63-65 гадоў, рост каля 180 см, валасы цёмна-руся з сівізной, блакітныя вочы. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце ў Ваўкавыскі РАУС на: (01512) 7-51-10, (01512) 7-51-15.

# Аляксандр ператварыў жыццё Святланы ў кашмар

**Знік пяцігадовы** хлопчык і яго бацька.

«Другі месяц кашмару», — кажа мінчанка Святлана Рудзянкова. Яе былы муж забраў пяцігадовага сына да сябе ў госці. Больш хлопчыка яна не бачыла.

20 чэрвеня яе былы муж Аляксандр адвёз Рамана з Мінска ў Гомель. Пасля разводу суд вызначыў парадак і працягласць сустрэч. Раз на год на пятнаццаць летніх дзён ён мог браць сына да сябе. Але тыдзень Святлана не мела звестак пра сына: мабільнік Аляксандра не адказваў. Тады яна і звярнулася ў міліцыю.

«Я прасіла высветліць знаходжанне сына. Але мне сказалі, што ёсць рашэнне суда на сустрэчы, а я падымаю паніку. 5 ліпеня, калі Рому былы муж павінен быў вярнуць дадому, але не прывёз, мяне выклікалі ў міліцыю. Але толькі праз тры дні прынялі заяву на пошук Ромы і Аляксандра як зніклых без звестак. Крымінальную справу распачалі 18 ліпеня».

Да пошуку хлопчыка падключыліся валанцёры пашукова-выратавальнага атрада «Анёл». І ледзь не штодня жанчыне тэлефануюць: бачылі падобных да Аляксандра мужчын, часам з хлопчыкам, у розных кутках Мінска. «Але гэта званкі простых людзей, а не міліцыі. Вось на мінулым тыдні Аляксандра з Ромам нібыта бачыла дзяўчынка ў аўтобусе ў Бабруйску. Але нічога пакуль не пацвярджаецца», — з сумам адзначае жанчына.

Святлана лічыць, што былы муж скраў сына: падобныя выпадкі ўжо здараліся. У 2010 Аляксандр на пяць дзён з сынам з'ехаў, не папярэдзіўшы яе. Шукалі тады іх з міліцыяй. Пасля той выхадкі і надумала развесціся. Але муж рашыў так проста не здавацца. Развод разводам, а вось сына аддаваць не захацеў. Зноў суды, вызначэнне месца пражывання хлопчыка і сустрэчы з ім. А пакуль гэта цягнулася, Аляксандр мог без папярэджання забраць сына ў Гомель.

Святлана расказвае, што адзін раз ён не аддаваў хлопчыка цэлы месяц: пакуль не было рашэння суда, з кім ён застанецца. «Ён нават мяне не пускаў да сына. Паставіў камеру над уваходам, каб усё бачыць. Калі я тэлефанавала, ён уключаў гучную сувязь, каб праслухоўваць размовы. І сын тады не хацеў са мной размаўляць: «Давай пасля пагаворым», — тлумачыў».



Калі ж суд пакінуў Рамана з мамай, Аляксандру вызначылі 15 дзён летам, калі можна забіраць хлопчыка да сябе.

«Я ў сына спыталася цяпер, ці хоча ён ехаць з бацькам. «Усё роўна трэба — суд так вырашыў», — сказаў мне Рома. Не ведаю, як гэта інтэрпрэтаваць. Магчыма, сын яго і баіцца. Не магу сказаць, што Рома дрэнна ставіцца да бацькі. Але Аляксандр вучыць яго пра мяне і маіх сваякоў кепска гаварыць. Калі ён быў меншы — усё мне расказваў. А цяпер нешта аналізуе з пачутага. А часам падыдзе: «Мама, чаму бацька паскудствы пра цябе кажа?» Маніпуляцыя дзіцем ідзе».

Па словах жанчыны, Аляксандр дзесяць гадоў нідзе не працуе і не плаціць аліменты: запазычанасць складае больш за 10 мільёнаў. А ўвесь час займаецца тым, што вывучае законы, а як знаходзіць нейкія слабінкі, піша скаргі на былую жонку: «Ён завaліў скаргамі ўсю Беларусь, і мяне пастаянна правяраюць. Я не ведаю, чаго ён хоча дабіцца».

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

### Выклікалі рэпетытара, каб забіць

Гамяльчук не даравaў былой дзяўчыне расстанне і паўгода абдумваў план помсты. У лесе выкапаў яміну ў чалавечы рост і падгаварыў знаёмую сям'ю дапамагчы. 23-гадовую рэпетытарку Марыну запрасілі, каб падцягнула замежную мову. А як толькі дзяўчына зайшла ў кватэру, атрымала ўдар малатком па галаве. Затым яе вывезлі ў лес і закапалі. Падазраваныя затрыманы.

### Пабіліся з-за «Кока-колы»

Паўтара года пад наглядам міліцыі правядуць два аматары амерыканскага напою з Маладзечна. Яшчэ ў сакавіку яны збілі маладзёнаў, каб забраць у іх пляшку «Кока-колы», прычым аднаму з хлопцаў зламалі нос.

### Дзевяць смерцяў у адной аварыі

Пад Оршай адбылася страшная аварыя. Кіроўца «Опеля» заснуў за рулём і ўрэзаўся ў мікраааўтобус «Мерсэдэс». Дзевяць чалавек загінула, дзесяць ляжаць у бальніцы. У аўто знаходзіліся грамадзяне Украіны, Узбекістана і Азербайджана. Адна машына кіравалася ў Расію, другая — ва Украіну.



### Вожык укусіў жанчыну

Жыхарка Маладзечна карміла вожыка малаком. І дакармілася да таго, што той укусіў яе за палец ды збег. Цяпер жанчыне ў мэтах прафілактыкі робяць балючыя прышчэпкі ад шаленства.

**КМ**

# Пад Докшыцамі злавілі чупакабру

Гэта — **янотападобны сабака**.



21 ліпеня ў Беларусі зноў пабачылі «чупакабру». Супрацоўнікі фермы «Добрунь» у Докшыцкім раёне забілі невядомую істоту, якая кідалася на кароў і кусала іх за ногі. Паводле словаў супрацоўнікаў фермы, яны забілі толькі адну, самую маленькую жывёлу. Дзве большыя пачвары змаглі ўцячы ў лес.

Труп жывёлы быў перададзены ў раённую ветстанцыю ў Докшыцах. Тут і пачалося самае цікавае, бо галоўны ветурач раёна Алесь Салаўёў не змог дакладна вызначыць, да якога віду належыць жывёла. А выглядала яна сапраўды незвычайна: як невялікая гіены з тонкімі лапкамі. Аднак Салаўёў не ўбачыў у здарэнні нічога незвычайнага і сказаў, што труп жывёлы будзе спалены.

24 ліпеня намеснік Салаўёва Віктар Саковіч паведаміў «НН», што чупакабру «ўтылізавалі», так і не даведаўшыся, хто гэта быў насамрэч. Але пасля пільнага інтарэсу прэсы да «добруньскага інцыдэнту» Алесь Салаўёў усё ж паведаміў, што від забітай жывёлы быў вызначаны: гэта аказаўся малады янатападобны сабака.

Дарослыя янотападобныя сабакі сапраўды падобны да янотаў, аднак маладыя асобіны пакрытыя рэдкай поўсцю сярэдныя даўжыні, таму ідэнтыфікаваць прыналежнасць да віду з першага погляду можа быць цяжка.

Янотападобны сабака (усурыйскі янот) — адзіны прадстаўнік сямейства сабачых, які зімою ўпадае ў спячку. Убачыць янотападобнага сабаку жыўцом можна ў Мінскім заапарку.

**Кірыла Хілько**

**Чупакабра**

Міфалагічная істота, персанаж гарадской легенды. Паводле яе, чупакабра забівае жывёл (пераважна коз) і высмоктвае ў іх крою. Першыя згадкі пра чупакабру з'явіліся ў іспанамоўных краінах Амерыкі.

# «Давайце не будзем сябе падманваць: наш колер — бел-чырвона-белы»

Лёгкаатлетка **Аліна Талай** пра нацыянальную сімволіку.



Прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы ў бар'ерным спрынце, найлепшая лёгкаатлетка Беларусі—2012 Аліна Талай расказала ў інтэрв'ю газеце «Прессбол»: «Я вырасла пад чырвоназялёным сцягам і мне падабаецца, калі ён узнымаецца ў мой гонар, але ўсё ж такі давайце не будзем падманваць адзін аднаго: наш колер — белчырвона-белы. Куды падзець гісторыю дзяржавы да 1917 года? Трэба забыць пра тое, што нашыя прадзеды стагоддзямі палівалі гэтую зямлю сваёй крывёю?

Неяк ужо атрымліваецца, што маё асяроддзе складаюць людзі, якія мараць пра сапраўднае нацыянальнае адраджэнне Беларусі».

Раней за бел-чырвона-белы сцяг са спартоўцаў выказваліся плыўчыха Аляксандра Герасіменя, гандбаліст Сяргей Рутэнка, бацька футбаліста Аляксандра Глеба — Павел.

**ЗП**

# Поп-зорка Праснякоў праспяваў па-беларуску песню на словы Лучыны



Песню «Спі, малы сакол» напісаў кампазітар Раман Козыраў на словы беларускага паэта XIX ст. Янкі Лучыны для юнага спевака Ромы Валазнёва. Рома ў 2009 быў удзельнікам конкурсу «Дзіцячая «Новая хваля» ў Маскве, дзе і пазнаёміўся з Прасняковым. З той пары яны сябруюць. Пачуўшы песню, расійскі выканавец папрасіў дазволу праспяваць па-беларуску.

Справіцца з мовай яму дапамагла жонка-беларуска Наталля Падольская. Дуэтам яны і заспявалі калыханку. Выйшла душэўна і густоўна.

**СМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## ДТЗ, у якое трапіла краіна

Не ведаю, ці ладзяць цяпер улады фуршэты для «беларускіх і замежных» журналістаў, але гадоў сем-восем таму на такім фуршэце апынуўся і я. У нейкі момант галоўны завадатар вечарыны, высокі, ну, вельмі высокі чын, трымаючы ў руках поўны кілішак, вырашыў, так бы мовіць, дэмакратычна чокнуцца з кожным. Заўважыўшы бурбалкі ў маім фужэры, ён запытальна-асуджальна паглядзеў у вочы... «За рулём», — патлумачыў я. «У нашай краіне толькі адзін чалавек за рулём, — адкрыў таямніцу высокі чын. — І толькі ён можа дазволіць сабе не піць...»

Я вось думаю, згадаўшы сёння гэты мудрагелісты жарт: ці не жартуюць улады з насельніцтвам, калі абяцаюць адбіраць у п'яных кіроўцаў іх шыкоўныя і не вельмі аўто? Ну, адбяруць у таго-сяго смяротную цацку, наладзяць нават паказальны працэс. І што, скончыцца п'яная вайна на беларускіх дарогах? Вайна, якую дзяржава відавочна прайграла тысячамі згубленых жыццяў.

Няўжо ўлады і сапраўды ўпэўненыя ў тым, што тыя, хто дазваляе сабе ў падпітку садзіцца за руль, так напужаюцца пагрозы згубіць аўто, што права людзей на жыццё паставяць вышэй за свой знішчальны ідыятызм?

Не забылася яшчэ паскудства, якое ўчынілі супрацоўнікі ДАІ на ўездзе ў «горад-герой-патрыёт» са Слуцкай шашы, і якое трапіла ў гісторыю пад назвай «жывы шчыт». Добра памятаю, як выбухнуў тады інтэрнэт, як ганьбілі, не тармозячы, удзельнікі інтэрнэт-форумаў усіх без разбору супрацоўнікаў ДАІ. Я не падзяляю такога зневажальнага пафасу. У даішнікаў небяспечная праца, і хаця не ўсе яны выконваюць яе годна, падстаўляць гамузам прыбіваць іх да ганебнага слупа гэта служыць не можа.

Іншае пытанне: а ці сапраўды ДАІ займаецца толькі тым, да чаго прызначана?

У 1973 я працаваў у сталічнай ДАІ. Цэлы месяц. Мяняў, так бы мовіць, прафесію. І магу абсалютна дакладна сведчыць: у тыя гады ДАІ значна бліжэй была да свайго прызначэння, чым сёння. Так, яна наскрозь была прасякнута карупцыяй па-

## ДАІ цалкам увагналі ў сістэму ўтрымання ўлады

савецку, так, і тады ў яе адносінах з кіроўцамі пераважаў казармавы стыль. Але яна займалася сваёй *аўтаінспектарскай* справай, як таго патрабавала тагачасная інтэнсіўнасць руху. Тым больш, што п'янь на вялікія дарогі не пнулася. А ў цішыні прасёлкаў нейкі райкамаўскі сакратарчык заўсёды быў пад апекай ДАІ.

Карацей кажучы, ДАІ баяліся, але паважалі.

І тое, і іншае пачало знікаць з таго моманту, калі ДАІ спачатку зрабілі прыладай дробных палітычных правакацый, а потым і цалкам увагналі ў сістэму ўтрымання ўлады. Я нават ведаю, калі гэта пачалося — у лістападзе 1988, з разгону памятнага шэсця ў Курапаты. Сярод страшыдлаў у касках, з дручкамі ды газавымі балончыкамі даішнікаў, зразумела, не было. Але замест таго, каб забяспечваць дарожны парадак, яны адсочвалі перамяшчэнне «варожых» аўто, пастаўляючы лухту ў даклады перапужаных партайгеносэ... Дарэчы, я сам трапіў у такі даклад праз распаўсюджаную рэспубліканскім ДАІ плётку пра тое, што збіў жанчыну і збег...

Я не ведаю, чаму вучаць сёння супрацоўнікаў ДАІ, але з перакрыццём вуліц яны спраўляюцца куды больш паспяхова, чым з заторамі. Хто з кіроўцаў не трываў з нарастаючым раздражненнем бяздзейнасць даішнікаў, што паважна месцяцца ўбаку і спакойнаназіраюць за тым, як цяжка разыходзіцца чарговы дарожны тромб?! Аднойчы я не вытрымаў, літаральна вымусіў аднаго з іх стаць на скрыжаванні і ўжыць жазло і свісток...

Толькі адно вымушае іх па-сапраўднаму схамянуцца — праезд Самога, таго, хто «дазваляе сабе не піць».

Ёсць усе падставы меркаваць, што гэта адзіная экстрэмальная сітуацыя, калі даішнікі сапраўды ведаюць, што рабіць. Падазраю, што калі б гэты праезд здарыўся ў тую злашчасную нядзелю 2 сакавіка 2008 на Слуцкай шашы, то і рацыі працавалі б, і паток быў бы расчлянёны, і сам ідыёт быў бы спынены...

Але не, у той вечар у Мінск вярталіся звычайныя людзі. А са звычайнымі людзьмі можна рабіць што заўгодна.

У тым ліку пакласці іх пад «танкі з Захаду» ці зрабіць мішэнню разам з расійскімі авіябазамі.

То бок «жывы шчыт».

«Якая нам справа да высокіх ідэалаў дэмакратыі, калі гаворка ідзе пра чалавечае жыццё?!» — усклікаў адзін з фарумчанаў.

Праўда, аднак, у тым, што калі нам насамрэч няма справы да «высокіх ідэалаў дэмакратыі», то і няма аніякай розніцы паміж намі і даішнікамі, што падставілі людзей пад смяротны ўдар.

Паміж намі і п'яным ідыётам, што ўшчэнт разбіў гэты шчыт.

Паміж намі і тымі, хто робіць «жывы шчыт» са ўсіх нас.

Бо ўсе мы — чальцы таго грамадства, дзе «высокія ідэалы дэмакратыі» дасюль успрымаюцца як нейкая абстракцыя ў адносінах да чалавечага жыцця.

Не, без «высокіх ідэалаў дэмакратыі» не выблытацца нам з ДТЗ, у якое трапіла краіна пры ўездзе ў сваю найноўшую гісторыю.

Такі вось яе, гісторыі, мудрагелісты жарт.

*kamerton_41@mail.ru*

# Віталь Рыжкоў: Садзіць дзяўчат сабе на каленку — гэта гадка

Кожны журналіст ведае, што ёсць пытанні-міны. З імі заўжды 50 на 50 — ці атрымаеш сенсацыю, ці чалавека, які больш ніколі не захоча з табою размаўляць. І другі вынік куды больш верагодны, таму выкручваеш, прыхоўваеш, маскіруеш...

Прызнацца, у размове з літаратарам Віталём Рыжковым таксама былі прыхаваны свае выбухоўкі. Яго ж называюць Джымам Морысанам айчыннай літаратуры і героем эратычных мар філалагічных дзеваў, што зачытваюцца яго вершамі.

На шчасце, выбухоўкі не спрацавалі — размова пра спагадлівых фанатак, грошы, мову і творчы анабіёз выйшла надзіва шчырай, а сэкс-сімвал і Морысан аказаўся разумным і цікавым суразмоўцам. Куды больш прыемным за тых, хто распаўсюджвае чуткі і прыдумляе гучныя мянушкі...


BUDZMA.ORG

**— Нават пасля выхаду вашага паэтычнага зборніка вы адмаўляліся называць сябе паэтам. Казалі: каб заслужыць гэтае званне, трэба, нібы Гераклу, здзейсніць 12 подзвігаў. Як поспехі на гэтым шляху?**

— Здавалася, напісаў кнігу, яе раскупілі, некаторыя яшчэ і прачыталі. Я атрымаў шмат добрых водгукаў, і паўтары рэцэнзіі былі пазітыўныя. Але паэт... Для мяне гэта сумнеўна праз застарэлыя ідэалістычныя ўяўленні пра гэтую місію. Асабіста мне вельмі падабаецца слова літаратар — чалавек, які частку сябе прысвячае літаратуры.

Для мяне паэт — прызнанне, пацвярджэнне таго, што чалавек адкрыў нешта новае. Вось Алесь Разанаў — паэт, Андрэй Хадановіч — паэт. Віталь Рыжкоў... Да яго ёсць яшчэ пытанні.

**— Што ж у такім выпадку зробіць з вас паэта?**

— У кнізе, дзе маіх арыгінальных неперакладных вершаў 35, я гатовы адзначыць у лепшым выпадку 5. А для таго, каб быць добрым паэтам, мне падаецца, трэба мець 300—400 тэкстаў, з якіх хаця б палова — на вякі.

**— Між тым у анлайн-энцыклапедыі «Вікіпедыя» ёсць артыкул пра вас. Не два радкі, а даволі прыстойны пералік вашых дасягненняў. А яшчэ ў вас ёсць фанаткі. Хіба гэта не сведчанне таго, што «вернай дарогай ідзяце»?**

— У пэўную савецкую эпоху паэтам, кнігі якога раскупляліся лепш за ўсё, быў Эдуард Асадаў. Дзяўчаткі перапісвалі яго вершы ў свае дзённічкі ад рукі. Нібыта *«пацан к успеху шел»* (смяецца). Але мая памяць выдае дзясяткі імёнаў выдатных аўтараў таго часу, пасля якіх ужо ідзе імя Эдуарда Асадава. Калі ўвогуле ідзе...

Так што папулярнасць можа сведчыць пра тое, што мае працы — папса. Усё вызначыць час.

**— Усё ж такі вы кумір для некаторых маладзенькіх і вельмі сімпатычных дзяўчат. Няма спакусы кожны дзень заводзіць новую інтрыжку?**

— Па маіх наіўных юнацкіх перакананнях, важна цаніць паэзію ўнутры сябе, а не сябе ўнутры паэзіі. І з гэтага вынікае, што непрыгожа і варта асуджэння, калі літаратар ці іншы творца садзіць дзяўчат-фанатак сабе на каленку. Гэта не як... гадка.

**— Прызнайцеся, проста ў вас ёсць дзяўчына.**

— Ёсць, але калі б яе і не было побач, гэта было б не менш гадка.

### Гляджу ў кнігу, бачу...

**— Ці моцна адрозніваецца Віталь Рыжкоў узору, скажам, 2009-га ад Віталя Рыжкова сённяшняга?**

— Той Віталь Рыжкоў не меў нават колькі-небудзь укладзенай кнігі. Толькі тэксты і пэўныя надзеі. Той Віталь у літаратуры займаўся ў асноўным тым, што выступаў і атрымліваў авансам кампліменты, за якія, дарэчы, прыйшлося разлічыцца, як толькі выйшла кніга.

Кніга з'явілася пры канцы 2010-га, але была прэзентаваная пазней — ледзь не ўвесну 2011 праз пэўную дэпрэсіўнасць атмасферы канца 2010 — пачатку 2011.

Сёння я аўтар не проста выдадзенай кнігі, а аўтар прададзенай кнігі. Яна разышлася за 8 месяцаў, і даўно паўстала пытанне пра другі наклад з бонусам — новым тэкстам. Але справа павісла. Так што за чатыры гады я даведаўся, што такое кнігавыданне ў Беларусі. Але лепш бы мне гэтага не ведаць!

**— Чаму? Кожны аўтар марыць выдаць сваю кнігу...**

— Зацягнутасць працэсу, тысячы хібаў з майго боку і з боку тэхнічнага цэха можа забіць жаданне выдаваць кнігі раз і назаўжды. Вёрстка, карэктура, пошук вокладкі, вырашэнне грашовага пытання... Для аўтара ўсё гэта такая лішняя інфармацыя! У нармальных краінах ёй займаюцца выдавецтвы альбо літаратурныя агенты. Плюс да ўсяго поўная немагчымасць займацца прамоцыяй кнігі. Калі шчыра, мне проста сціпласць не дазваляе. Не камільфо, па-мойму, займацца самапіярам.

**— У творчым плане перамены відавочныя, а што наконт звычайнага жыцця? Чатыры гады таму вакол бытавых умоў, у якіх вы жылі, хадзілі легенды: у якасці жылля — сквот з індусамі-геямі і іншыя неверагоднасці...**

— Гэта было значным перабольшваннем, метафарай. Проста я здымаў пакойчык не ў найлепшых умовах. Здымаў тое, што мог дазволіць сабе з заробкам кнігараспаўсюдніка. У мяне і цяпер адзін пакойчык, толькі гэта ўжо добрая і, на мой погляд, утульная аднапакаёвая кватэра.

### Інтэлігентна пра мат

**— Вы пераклалі на беларускую мову новую кнігу Віктара Марціновіча «Сфагнум» і падчас прэзентацыі прызналіся, што найлепшай ухваленай для вас будзе, калі чытачы не заўважаць, што кніга перакладная. Але там жа атрымалі па шапцы — маўляў, заліаратурны пераклад. Без мату і трасянкі.**

— Пра мат я сказаў яшчэ падчас прэзентацыі — гэта было патрабаваннем выдаўца. Наконт таго, што я змяніў трасянку, то я вельмі добра бачу, што на яе з горада глядзіць паіншаму. Палескую трасянку, якая бліжэй да суржыка, у Мінску, напрыклад, уяўляюць зусім не так, як у любым палескім горадзе. Увогуле, са «Сфагнумам» у нас адбыўся такі ланцужок: Віктар пісаў трасянку так, як ён яе сабе ўяўляе, я яе злёгку беларусіфікаваў, бо такое проста немагчыма пачуць у вёсцы. Я ведаю, аб чым кажу, бо дзеянні рамана адбываюцца на Магілёўшчыне, а я сам адтуль родам. А потым рэдактар, які сам з Віцебшчыны, яшчэ больш падправіў нашу агульную трасянку.

Ну, а што тычыцца мату, то я не належу да тых людзей, якія памылкова лічаць, што беларуская мова такая ўся беленькая і цнатлівенькая, што мацюкоў у ёй ніколі не было, няма і не будзе. Гэта няпраўда.

**— Аўтарская асоба ў тэксце перакладаў вельмі важная?**

— Пазнавацца павінен не перакладчык, а аўтар. Я мушу не адрозніць пераклады аднаго і таго ж твора Умберта Эка, калі яго рабілі розныя перакладчыкі. Так мусіць быць у ідэале. І я павінен адрозніць Умберта Эка ад Сартра ці Сэлінджэра, нават калі іх усіх перакладаў адзін чалавек. Тое, што мне ўдалося захаваць Віктара ў рамане Віктара, — камплімент. Школьная прапісная ісціна кажа: «Перакладчык у прозе — раб, перакладчык у паэзіі — супернік».

### Адзначаны мовай

**— Ёсць стэрэатып, што творчыя людзі, і асабліва літаратары, — маргіналы, людзі, што выпалі з жыцця. Ці не адчуваеце сябе замкнёным у пэўным гета, рэзервацыі?**

— Я не імкнуся да пэўных суполак. Мне пашчасціла: я ўваходжу ў саюз сяброў, якія па сумяшчальніцтве яшчэ і добрыя літаратары.

Я пачынаў пісаць па-руску, але тое, што зрабіла мяне літаратарам і дазволіла какетнічаць на тэму, паэт я ці не, — гэта пераход на беларускую мову. Яна адкрыла мне магчымасць напісаць паэзію пасля соцень вучнёўскіх рускамоўных тэкстаў.

Менавіта мова зрабіла мяне вельмі арыгінальным у Магілёве. Нармальна так — быць адным з трох маладых аўтараў, якія пішуць не па-руску? Гэта звяртае на сябе ўвагу. Тым больш, што ўнутры беларускамоўнага сегмента ёсць прастора для творчасці. Я, прынамсі, заўжды імкнуся да адрознення.

Так што беларуская мова — гэта суцэльныя плюсы для літаратараў.

### Воўчыя правілы

**— Літаратура не вельмі добра стасуецца з такім паняццем, як грошы. А людзі любяць грошы...**

— Людзям неабходны грошы. Жыць на тое, што зароблена выключна з беларускай літаратуры, удаецца адзінкам. Пальцаў адной рукі будзе дастаткова, каб пералічыць гэтых людзей.

**— Пры гэтым кожная праца павінна аплачвацца. Калі высілкі не будуць манетызаваныя, то як утрымаць творчасць ад пераходу ў разрад хобі?**

— Гэта цалкам імаверная небяспека, прымальная рызыка і найбольш верагодны вынік таго, што чакае амаль усіх. Большасць сыдзе ў літаратурную Вальгалу былых герояў, стане прафесійнымі чытачамі новай беларускай літаратуры. Будзе працаваць на сайтах, на халодных абзвонах, грузчыкамі альбо кухарамі. І гэта — аб'ектыўная рэальнасць. Толькі адзінкі з нас застануцца паэтамі, дойдуць да канца і памруць найлепшымі.

**— Верыце, што да канца дойдуць менавіта найлепшыя?**

— Заўжды трэба быць гатовым да таго, што нават пасля шматлікіх слоў аб тым, што ты нешта адкрыў, нешта прасунуў, назаўтра пра цябе забудуцца. Такія воўчыя правілы... Дзе цяпер сотні і сотні таленавітых музыкантаў, паэтаў, празаікаў, мастакоў? Мы ж іх усіх ведалі, вось яны — тысячы людзей, якія вельмі прыгожыя і звонку, і ў сярэдзіне. Пры сустрэчы глядзіш на іх з цеплынёй і радасцю, але яны даўно сышлі ў анабіёз...

**Гутарыла Марыя Малевіч**




**Віталь Рыжкоў**

Нар. у Магілёве ў 1986. Бацька — рабочы, маці — служачая. Атрымаў інжынерную адукацыю ў Беларуска-расійскім універсітэце (Магілёў). Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў», пераможца конкурсу імя Карласа Шэрмана, пераможца слэмаў на міжнародных фестывалях, лаўрэат прэміі «Дэбют» імя Багдановіча за кнігу паэзіі «Дзверы, замкнёныя на ключы».

**Зміцер Дашкевіч.** Аповесць.

*Галоўны герой аўтабіяграфічнай аповесці адседжвае палітычны тэрмін у калоніі на Віцебшчыне. Ён і там пакараны за «парушэнне» — стаіць у цеснай клетцы між працоўнай і жылой зонамі калоніі. Невядомы зэк кладзе яму ў далонь цукеркі. Яны знаёмяцца, але пагутарыць не паспяваюць. Герой тым часам апынаецца ў «адзіночцы»...*

**Працяг. Пачатак у «НН» ад 17, 24 ліпеня.**

# Чарвяк

— Пагулялі, і харош! — агучыў устаноўку прапар.

Салдацік-наваბранец, які, кантралюючы нас, хадзіў уздоўж дварыкаў, пачаў адчыняць клетку з ПКТэшнікамі.

— Што, ужо ўсё? — абурыліся тыя, хаця і самі ведалі, што «ўсё».

— Усё па кодэксе: патрэслі косткамі паўгадзіны і — у склеп свой.

Жыхары склепа спрачацца не збіраліся і вярталіся ў хаты, развітваючыся са мною і такім шанаваным страгачамі чэлам з іншае адзіночкі, які гуляў у крайнім ад мяне, першым дварыку. І калі ўсе выйшлі, я угледзеў, што суседам маім, Дзёнем, ёсць колішні знаёмы — белы пекар. Я радасна узняў далонь.

— Здароў!

— Здароў! — махнуў у адказ і светлы чалавек.

— Як гэта ты тут апынуўся? — крыкнуў я праз чатыры клеткі між намі.

— О, доўгая гісторыя, — з усмешкаю адказаў ён і запытаў кантралёра: — Не выводзяць нас яшчэ?

— Не, на агульных жа умовах — гуляеце гадзіну.

— Ды, на працы там... — неяк не хочучы пачаў Дзяніс. — Прыйшлося ўгаманіць аднаго.

— Гэта тая бойка? — прыгадаў я падзею, якую ў апошнія дні абмяркоўвалі зэкі: рукапашную на прамзоне.

— Ну, — кіўнуў пекар. —Не здолеў стрываць.

— Усяк жа бывае. Яно мо і не заўсёды правільна — трываць.

— Не, я ведаю: мяне Госпад вучыў цярпенню, пакоры. А я сарваўся.

Філасофія пакоры для Беларусі не новая. Многія памылкова (а мо і спецыяльна) інтэпрэтуюць біблійны заклік упакорыцца Хрысту як загад упакорыцца ўсяму і кожнаму. Але нават памяркоўны Павал першасвятару, які загадаў ударыць апостала па твары, кажа чыста так па-памяркоўнаму: «Дык няхай ударыць цябе Бог, сцяна пабеленая!»(Дзеян.23:3)). Дый было бачна, што Дзёня не з тых, хто чалавекам упакорвацца будзе:

— Што ж за нягоднік збіў цябе са шляху?

— Ёсць там зэк адзін, камендант прамзоны. Ходзіць буры такі ды ўсё камандаваць спрабуе. У асноўным муціць з кабелямі: кілаграмы на сябе закрывае, зэкам — па пару блокаў «Прымы». А ў дадатак і жыць спакойна не дае: то жалеза забярэ, каб спортам не займаліся (ходзяць яны потым свае ж гантэлі ў яго выкупляюць); то не выпускае ў душ, пакуль зэк норму медзі не здаў. А калі няма кабеляў, дык што, не мыцца зэку? Ты ж ведаеш, у якіх умовах працуюць людзі.

Што адказаць Дзянісу, я не ведаў — не хацелася мне яго засмучаць. У «Глыбокім» на промцы ёсць лазня ў 15—20 душавых кранаў і мыйся хоць кожны дзень — тыя ўмовы люксавыя, калі параўнаць з тым, што бачыў я хаця б у «Горках».

Горацкія цэхі па здабычы каляровых металаў (у асноўным — медзі і алюмінія) з адпрацаваных кабеляў умяшчаюць сотнюдругую мурзатых тварaў.

Перад пачаткам працы да цэха пад'язджае МАЗ і вывальвае пад «лакалку» гару кабеляў. Зэкі тут жа кідаюцца на яе з усіх бакоў, і гара пераўтвараецца ў жывы арганізм: адзін цягне кабель, другі — зэка за нагу, трэці з чацвёртым чысцяць лычы адзін аднаму — ідзе грамадзянская вайна, у якой кожны імкнецца завяваць болей здабычы.

Пасля падбітыя ваякі цягнуць трафеі ў цэхі і — усе ў мазуце, салярцы і шчэ якой гадасці — пачынаюць іх драць, здабываючы для радзімы каляровы метал. Тут нябёсы разраджаюцца даждждом (а дажджы неяк вельмі любяць цудоўную горацкую зямлю і дзікунскую горацкую калонію), і цэхі ператвараюцца ў вялікую душавую кабіну — зліва з даху паліваe ўсё: чорных рабоў, кабелі, мазут і нават мусара якога, што зайшоў пракантраляваць медны руднік. А пячорныя людзі каменнага веку, хоць у руках у іх прылады металёвыя, усё дзяруць, дзяруць, дзяруць: норма ж — 60 кг!

(Чытач, калі ты маеш дома адпрацаваны медны, алюмініевы ці любы іншы кабель, ніколі, ніколі не здавай яго на пункт перапрацоўкі! Закапай яго, прасяць цябе разам са мною ўсе зэкі Беларусі. Не ўмацоўвай рабаўласніцкі лад на Бацькаўшчыне!)

Паўцэнтнера алюмінію (гэта ж — цэлы воз!) здаць за змену нерэальна, і ніхто норму, са столі ўзятую, не выконвае. А норма гэтая для таго, каб любога і ў любую секунду можна было пасадзіць на цугундзер за яе невыкананне.

Пасля працы пячорнаму рабу хацелася б прыняць не імправізаваны небам, а простьі, штучны душ. І вось, заходзіць ён на ўмывальнікі — і што бачыць? Чатыры ракавіны, і тут жа, за невялікаю перагародкаю, — чатыры дзіркі, за дзень заваленыя выкідамі замучаных баландаю зэкаўскіх страўнікаў. У такой абстаноўцы мыйся як хочаш: тут — чатыры ракавіны, дзе ценяў восем, паздымаўшы кашулі, штурхаючыся, шаруюць далонямі па грудзях, а побач — дыміцца чатыры гары ...

Каб не быў я зэкам, каб быў я нармальным чалавекам і прачытаў такое, седзячы пры гальштучку за камп'ютарам, альбо ў газетцы, у халацiку разваліўшыся на канапе, не паверыў бы я і сам, што такое можа быць у III тысячагоддзі. Але клянуся вам: так і ёсць! Абы толькі не «ехалі» вы правяраць мяне ў «Горкі»!

Ну і ці можна з такім дзікунствам параўнаць штонебудзь у свеце? Можа, толькі канцлагеры ў Паўночнай Карэі.

Ізноў, хацелася б абурыцца: чаму рабы церпяць?! Чаму не патрабуюць наймінімальнейшых умоваў, якія адрозніваюць чалавека ад быдлоты?! Але ўзгадваю я пра наступствы для тых, хто патрабуе... і разумею, што і абвінавачваць няма каго: каб стаць свабодным, раб павінен быць гатовы развітацца са сваім рабскім жыццём. А гэтыя хочуць хаця б неяк, але існаваць, думаючы, што, выбраўшыся з двухтысячнай зоны ў дзесяцімільённую, яны будуць вольнымі.

— Як цярпець? — паўтарыў Дзяніс.

— Нельга цярпець, — згадзіўся я. — Але ж, цярпяць.

— Я спакойна глядзець на такое не магу. Неяк кажу яму: « Што ты творыш, ё-маё?! Ты з людзей маеш, дык дай жа і ім дыхаць!» Ён на нейкі час супакоіўся, а потым ізноў: панапрыдумляў «лакалкі» варыць каля цэхаў, каб зэкі не маглі з амбараў сваіх выходзіць нават паветрам падыхаць. У нас там, ля пякарні, таксама пачалі варыць клетку, а ён бегае ўсё і кантралюе. Я, глядзячы на рух такі, прыкалоўся. Вам, кажу, і наглядчыкаў не трэба, вы тут самі гатовыя пазаварваць сябе з усіх бакоў у арматуру. Ну, і што ты думаеш? Пайшоў ён аперам наплакацца, што хаджу я ды агітую зэкаў кіпішаваць супраць «лакалак». Мяне выклікаюць, я ім тлумачу: якая мне розніца, вараць яны самі сабе намордікі, дык няхай вараць — кожны ж паказвае сябе перад начальствам як можа. Ну трохуприкалоліся мы, ды пайшоў я з мірам.

А, праз пару дзён ідзём мы на абед з сябрам маім, Максам, і гэты насустрач. «Думаеш, адмазаўся? — пытаецца нахабненька, са смяшком. — Пачакай!» Але я ўжо не чакаў: даў раз у зубы і — з капыт небарака. Падняўся ды пабег. Макс кажа: «Ну што, пайшлі на «кічу» пераапранацца?» І сапраўды, толькі мы пераапрануліся, за намі прыляцела ўжо змена. Далі спачатку па дзесяць сутак — ціпа не па форме адзення хадзілі па промцы, а потым Макса ў зону вызвалілі, мяне — на агульныя ўмовы ў адзіночку ды паабяцалі цягам месяца вывезці.

— І ў чым сэнс? — запытаў я, не разумеючы такіх падыходаў.

— Каб не было канфліктных сітуацыяў надалей, — патлумачыў добры пекар і па сумяшчальніцтве ўтаймавальнік «борзых». — Кагосьці з двух трэба вывозіць. Зрэшты, нармальна, зменім абстаноўку. Для мяне гэтая гісторыя — магчымасць гардыню сваю ўпакорыць, хаця б трошкі цярпенню навучыцца...

Дзяніс задумаўся.

— На ўсё Ягоная воля. Хто я такі, Дзімон?

— Чалавек, —усміхнуўся я простаму пытанню.

— Чарвяк я, — таксама з усмешкаю, але асвечанаю сумам абвесціў светлы чалавек. — Калі Ён так дапусціў, Ён ведае, што робіць.

Сапраўды, хто мы такія у гэтым валадарстве ценяў: чалавекі ці чарвякі? Сходу разабрацца было цяжкавата, і я пацвердзіў тое, у чым быў перакананы:

— Так, Ягоныя шляхі — не нашыя шляхі.

— Ну і самы пазітыўны аспект, — Дзёня строс сум і зноў заззяў. — З табою ўбачыліся.

— Да ты што, — сумеўся я. — Ці яно таго варта?

— Варта. Бачыш, які провід Божы: планавалі мы, планавалі сустрэцца, а тут во — у адзіночках стрэліся.

Нейкі час пахадзілі мы тудысюды па клетках сваіх, разважаючы над провідам Божым, пакуль не прыйшоў прапаршчык і па нас.

— Дзімон, — клікнуў Дзёня, калі мы былі ўжо ў адзіночках.

— Ну, — адказаў я, ляжачы на нары, і нават на крык не пераходзячы — акустыка у будах нашых была такая, што можна было размаўляць праз сцены звычайным галасам.

— Маеш што есці?

— Перад судом хадзіў у атаварку, дык троху карамелек шчэ засталося, — адказаў я ды ніякавата самому стала ад гэткага сумнага падліку, і я натхнёнеі дадаў. — І паўпачкі маргарыну!

— Дык я «заганю» табе па абедзе.

— Ды не, супакойся ты, табе б самому было.

— У мяне ёсць, — запэўніў сусед. — Мяне ж на агульныя ўмовы закрывалі з атрада, з усімі рэчамі, а перад кічаю паспеў я перадачу атрымаць ад мамкі.

— Дзёня, усё роўна неяк няёмка аб'ядаць цябе. Я хутка на турме буду, там ад'емся да этапа.

Праз паўхвіліны Дзёня, з крыху засмучанай інтанацыяй, гукнуў:

— Паслухай, Дзімон, ты так не гавары. Я ж ад шчырага сэрца.

І хаця трэці закон зоны ніхто не адмяняў, але не пагадзіцца тут было ўжо нельга — гэта сапраўды засмуціла б чалавека, які жадае дапамагчы. І я, кранутыя шчырасцю добрага пекара, адказаў:

— Добра, сябар, давай пачастуемся!

Праз пару гадзін, па абедзе, раздатчык ежы выдаў мне суп з кашаю і перадаў ад Дзяніса, якога карміў перад гэтым, пакунак. Я адразу, як ісцінны галадоўнік, пачаў даставаць усё, што там было — о, сады Семіраміды! — цукеркі, кавалак сыру, каўбасы, маянэз, яблычкі і нават піражкі самаробныя — выглядала на тое, што гулянка будзе ў мяне сёння да самае ночы.

— Дзёня!

— Так, Дзімон.

— Дай табе Бог здароўя і добрую жонку!

— Дзякуй, — засмяяўся Дзяніс, — частуйся на здароўе!

*Працяг будзе.*




PHOTO BYMEDIA.NET

**Зміцер Дашкевіч**

Намеснік старшыні Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

**Дашкевічу можна напісаць:**

230023, Гродна, вул. Кірава 1, Турма 1.

Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Варта пазначаць імя па бацьку Зміцера, каб ліст ці паштоўка гарантавана дайшлі.

Можна таксама даць тэлеграму, прадыктаваўшы адрас на гарадскі нумар 166.

# «Нельга трываць доўга, людзі»

Пісьменніцы Раіса Баравікова і Алена Масла **выходзяць з лукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў**.

Усяго за апошні час з афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Беларусі (СПБ) выйшлі пяць значных творцаў. Гэта празаікі Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч і Валер Гапееў, паэтка Раіса Баравікова і дзіцячая пісьменніца Алена Масла.

Большасць з іх аказалася ў СПБ, бо працавалі ў дзяржаўных літаратурных выданнях і выдавецтвах. Удзел у афіцыйным саюзе быў, фактычна, умовай захавання працоўнага месца. Гэта нягледзячы на тое, што дыскрымінацыя па палітычных і культурных прыкметах забаронена дзейнымі законамі і можа быць пакарана.

Па меры таго, як яны сыходзяць з працы ў дзяржаўных выданнях і холдынгах, яны пакідаюць і саюз.

Раіса Баравікова раней узначальвала холдынгавае выданне «Маладосць». А Алесь Наварыч атрымаў прэмію з рук Лукашэнкі за выдатны раман «Літоўскі воўк». Алена Масла — аўтарка цудоўных твораў для дзяцей, аблічча сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

«Пра свой выхад, а таксама пра тое, якая я сволач, запрашаю пачытаць на сайце Літкрытыка.by, — іранізуе Алена Масла ў сваім Фэйсбуку. — Пачытаўшы цёплыя словы пра сябе, пераканалася ў чарговы раз, што зрабіла адзіна правільны крок, даўно жаданы. Нельга трываць доўга, людзі. Рашучыя крокі трэба рабіць рашуча! — звяртаецца Масла да калег. — Асаблівую ўвагу звярніце, як каментуецца цытата Уладзіміра Караткевіча «Нельга есці хлеб народа і грэбаваць яго мовай».

Карыстальнікі сацыяльных сетак выказалі творцам, якія пакінулі СПБ, гарачую падтрымку. У абмеркаваннях гэтай весткі няма ніводнага негатыўнага водгуку. Адно што некаторыя дакараюць пісьменнікаў за іх колішнюю слабасць: уступленне ў СПБ.

Стварэннем СПБ лукашэнкаўцы спрабавалі разбурыць незалежны Саюз беларускіх пісьменнікаў, які ім так і не ўдалося асядлаць. Кіраўнікамі свайго саюза літаратары паслядоўна абіралі творцаў, звязаных з апазіцыяй і рухам нацыянальнага вызвалення: Вольгу Іпатаву, Уладзіміра Някляева, Алеся Пашкевіча, Барыса Пятровіча.

На чале ж СПБ улады паставілі генерала міліцыі Чаргінца — пісьменніка, які не карыстаецца беларускай мовай.

Напачатку, каб завабіць у саюз вядомых пісьменнікаў, СПБ дэкларавала жаданне працягваць курс на падтрымку нацыянальнай культуры, але шляхам супрацоўніцтва з уладамі. Аднак з часам пад крылом СПБ згуртаваліся чарнасоценцы. Гэтак, сайт Літкрытыка.бай называе пісьменнікаў і людзей, якія любяць беларускую мову і заклікаюць да яе выкарыстання, няйначай як «мовафіламі».

Пісьменнікі, што выйшлі з СПБ, называюць далейшае сяброўства ў Саюзе Чаргінца несумяшчальным са сваімі маральнымі прынцыпамі.

**Мікола Бугай**


Алена Масла, найлепшая дзіцячая пісьменніца.

---

**Раман Артура Клінава** выйшаў у перакладзе ў расейскім камерцыйным выдавецтве.

# Беларускі «Шалом» у Маскве

«Шалом» быў выдадзены па-беларуску ў 2010-м, у серыі «Кнігарня «Наша Ніва». Тысячны наклад кнігі разышоўся даволі хутка. Раман трапіў у шорт-ліст першай прэміі імя Ежы Гедройца.

Цяпер кніга з'явілася ў маскоўскім выдавецтве Ad Marginem, якое займаецца якаснай сучаснай літаратурай — менавіта ў ім выходзілі кнігі знакавых аўтараў ад Ралана Барта да Уладзіміра Сарокіна.

Рэцэнзенты Gazeta.ru назвалі раман Клінава постсавецкай рэінкарнацыяй кнігі Венядзікта Ерафеева «Масква-Петушкі». Расейскамоўная версія рамана адрозніваецца ад беларускай: аўтар зрабіў пачатак больш дынамічным, моцна змяніў «магілёўскую» частку рамана, увёў новых персанажаў.




**«Шалом»**

Раман, галоўнай дзеючай асобай якога з'яўляецца беларускі мастак Андрэ (Андрэй) Н. У юнацтве ён марыў здабыць славу вялікага мастака, а стаў выкладчыкам малюнку ў Магілёве. У Германіі ў вулічнага гандляра Андрэ набывае прускі шалом часоў Першай сусветнай і дае зарок ніколі яго не здымаць. У такім выглядзе ён вяртаецца на радзіму. Яго суправаджаюць алкаголь, які ў кнізе вырастае ў амаль паўнавартага персанажа, і аматарка мастацтва Інгрыд.

**«Наша Ніва»: Цяжка даўся пераклад на расейскую?**

**Артур Клінаў:** Канечне, «расейская» расейская мова і наша расейская — вельмі адрозныя. Цяпер мы дамаўляемся на тое, што яны выпусцяць яшчэ і «Малую падарожную кнігу па Горадзе Сонца».

**«НН»: Вы казалі пра экранізацыю «Шалома». Ці пачалася праца над ёй?**

**АК:** Так, я падрыхтаваў сінопсіс, мы з рэжысёрам Андрэем Кудзіненкам шукаем фінансаванне — пытанне толькі ў грошах. А сёлета мусіць выйсці мой новы раман «Шклатара».

**«НН»: Пра што ён будзе?**

**АК:** Гэта дакументальная гісторыя, дзе няма ніякага фікшну. Дзеянне «Шклатары» адбываецца ў канцы 2010 — пачатку 2011, у самы цяжкі час у гісторыі сучаснай Беларусі. Там будзе грамадска-палітычная лінія, Плошча, аднак яна ў рамане не галоўная. Дзеянне рамана адбываецца ў галерэі «Ў», якая калісьці была пунктам прыёму шклатары, адсюль і назва. Гэта кніга пра наша «дэмакратычнае падполле» — у постмадэрнісцкім значэнні слова. Я захацеў паказаць ягоны адваротны бок. Усе падзеі і персанажы ў кнізе рэальныя. Змененыя імёны, аднак шмат хто сябе пазнае. Скандал вакол кнігі будзе, бо некаторыя дзеючыя асобы пакрыўдзяцца.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

---




Каўрус А.А. Словаклад. Слоўнік адметнай лексікі. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.

**Мова**

# Выйшаў слоўнік адметнай лексікі

Мовазнаўца **Алесь Каўрус** выдаў «Словаклад».

Гэта дадатак да акадэмічнага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы: трыста старонак словаў, у якіх — сама сутнасць мовы.

«Ячшэ з аспірантуры, з 1960-х, выпісваў, шукаў іх, — кажа сп.Каўрус. — Калі казаць пра канцэпцыю кнігі, дык яна ў тым, каб выявіць адметнасць, спецыфіку мовы. Словы я браў не толькі з твораў Цёткі, Алеся Гаруна, Янкі Купалы, Цішкі Гартнага, але і з сучасных крыніц. Мне цікавыя словы, якія сваім утварэннем, значэннем сведчаць, як мова жыве, у якіх момантах гэтае жыццё выяўляецца».

У кнізе можна знайсці беларускія аналагі расейскіх дзееprыметнікавых формаў, якія часта ў нас проста калькуюцца: замест «гнятучы» лепш ужываць «гнятлівы», замест «гаворачы» — «моўца», замест «ранімы» — «ранлівы», замест «запанаваўшы», — «запанавалы» і нават «запанаваны», падказвае мовазнаўца. Гэта ж адпавядае граматычнаму ладу нашай мовы, узбагачае яе.

Ёсць і звыклыя словы ў прызабытых значэннях: «Напрыклад, «рыба» — фіксуецца ў значэнні «рыбная лоўля»: «пайшоў на рыбу». Або слова «тады» ў значэнні «потым», «пасля». Або слова «надта» як сінонім «вельмі», але з шырэйшымі магчымасцямі — бо можна сказаць і «занадта», і нават «занадты», «занадтасць». А некаторыя аўтары ўжываюць слова «надта» ў значэнні «асабліва».

«Мне падавалася важным мову ад аўтарытэтаў, знаўцаў, носьбітаў паднесці бліжэй да нашага часу, — кажа сп.Каўрус. — Можа, хтосьці з пісьменнікаў падхопіць якое слова, і яно пойдзе ў шырокі ўжытак.

Бо часта слоўнікі ў акадэмічным інстытуце робяцца механічна. Ёсць патрэба, напрыклад, зрабіць слоўнік на 20 тысяч словаў — бяруць і перапісваюць з ранейшых, нават не зазіраючы ў фундаментальную картатэку Інстытута мовазнаўства. І перасыпаюць з слоўніка ў слоўнік русізмы, напрыклад, «паесці», хоць ёсць яшчэ і «пад'есці». Беларускія формы часам называюць «прастамоўнымі», калі яны не супадаюць з рускімі. Словы губляюць — праз лянoту, а можа і знарок, з мэтай збядніць мову.

Калі мова не гучыць, пачынаюць рабіць памылкі нават дыктары на радыё — на каго ж тады арыентавацца людзям? Дзе пачуць слова па-беларуску ў правільным вымаўленні, з правільным націскам?..»

Кнігу зрабіў выдавецкі дом «Звязда», яна выйшла накладам у 700 асобнікаў, прадаецца ў кнігарнях.

**ЯК**

---

**Дзе варта быць**

### Рамесніцкі летнік «Азярычына-2013»

6—11 жніўня ў вёсцы Азярычына (Пухавіцкі раён, 35 км ад Мінска) пройдзе рамесніцкі летнік. Плануюцца наступныя майстар-класы: пляценне з лазы (6—7 жніўня), разьба па дрэве (8—9 жніўня), выраб лялек (10 жніўня). Адбудзецца некалькі міні-этнаграфічных экспедыцый і выніковы канцэрт (10 жніўня). Каб узяць удзел, трэба зарэгістравацца, даслаўшы анкету на aziaryczyna@gmail.com. Даведкі па т.: 136-46-72 (Вэлком), 877-61-59 (МТС).

**Васіль Прымака**

# Як «Саўбелія» рабіла рэпартаж пра нудысцкі пляж

**Сведчанні** відавочца.

У «Советской Белоруссіі» выйшаў у свет вялікі артыкул, прысвечаны нудысцкаму пляжу на Мінскім моры. На гэта адгукнуўся адзін з чытачоў «НН».

Працягласць берага Заслаўскага вадасховішча ў раёне, дзе месціцца нудысцкі пляж — кіламетраў пяць сама мала. З іх нудысты ад 1980-х займаюць нейкія 50 метраў у самым канцы пясчаных пляжаў.

Ад аўтобуснага прыпынку па дарозе туды шыбаваць кіламетры тры, карацейшым шляхам можна дабегчы па пракладзенай самімі нудыстамі праз лес вузенькай сцежачцы, але гэтую сцежачку ведаюць толькі асабліва дасведчаныя. Далей ідуць карчы і лес са спускамі да вады, шырынёй метры па 3–4 сярод асакі.

Дапытлівым маралістам, каб адчуць на сабе «жах» і «амаральнасць» голых целаў, неабходна трапіць менавіта на гэтую 50-метроўку. Бо нудысты без адзення за межы пляжа не выходзяць, а па перыметры пляж акаляе паласа кустоўя.

Пры канцы чэрвеня давялося назіраць, як праз паласу спрабавалі праехаць байцы міліцэйскага атрада спецпрызначэння на сваім бусе. Але небаракі-міліцыянты загрузлі паміж кустоў у пяску і ледзьве выехалі назад.

А як няма міліцыянтаў, на пляжы сапраўдная ідылія: людзі больш сталага веку ляніва валяюцца на сваіх капах на грачым пяску ў промнях яскравага сонейка, зрэдку заходзячы асвяжыцца ў ваду. Маладзейшыя з дзецьмі падлеткавага веку гуляюць у валейбол, альбо з самымі малымі будуюць з пяска хаціначкі. Усё як і на любым звычайным пляжы. Праўда, пляшак не відаць і шашлыкамі за кіламетр не тхне. Ні ў каго ані не ўзнікае сэксуальных узбуджэнняў ці нейкіх амаральных думак.

Апісаны візіт карэспендэнткі «Советской Белоруссіі» адбываўся наступным чынам.

Бліжэй да гадзіны 13-й да пляжа нясмела падбрыло высакароднае сямейства з хлопца гадоў трыццаці з дакладна статутнаю прычоскаю з выгаленым канцыкам на шыі, маладой кабецінкі з нервова падрыгваючымі куточкамі ля вачэй і двух хлапчукоў гадкоў па 5–7.

Яны, спыніўшыся ў куставой паласе між нудысцкім пляжам і наступную палянаю, пачалі ладаваць мангал наўпрост у зоне адпачынку, ламаць голле з дрэва, пад шатамі якога размясціліся. І раптам яны нібыта ўбачылі, што вакол усе голыя. Паспрабавалі рабіць заўвагі той самай жанчыне «бальзакаўскага веку», як ахарактаразавала яе саўбелаўская журналістка: маўляў «што вы сабе дазваляеце — у нас тут дзеці». Але... Прыкладна такога ж веку дзеці гуляліся ля самага беражка ды ані не палохаліся відарысаў ні сваіх бацькоў, ні іншых наведнікаў пляжа. Дый на тварыках хлопчыкаў з высокамаральнае сям'і шоку неяк не назіралася, у адрозненне ад аблічча іх бацькоў.

Праз некалькі хвілін да пляжа падышлі два міліцыянты са спецназа ў сяржанцкіх званнях і пачалі зводдаль назіраць за адпачывальнікамі.

Натуральна, пры іх назіраннi ўсе адзелі хто што.

І праз хвілін дзесяць да пляжа падрулíў той самы спецназаўскі бус колеру шэрага металіку. З буса вылезлі капітан-спецназавец, нейкая дзяўчына і дзядзька гадоў пад 50 з фотаапаратам на шыі.

Прыехаўшы, дэлегацыя адразу скіравалася туды, дзе ў карчах сядзела высокамаральнае сямейства.

Пакуль дзяўчына-карэспандэнтка гутарыла спачатку з сямейством, потым з той самай жанчынай, фотакар пільна ўглядаўся ў абітальнікаў пляжа, спрабуючы выгледзець хоць кагосьці, хто б ляжаў без майткоў і «дабіць» да яго сваёй фотастрэльбаю. Але дарма.

Налёты на нудысцкі пляж адбываліся сёлета практычна кожныя выходныя. Міліцыянты ўдасканальвалі спосабы барацьбы з голымі людзьмі, а тыя, у сваю чаргу, удасканальвалі спосабы ранняга выяўлення назірання міліцыі.

Назіраючы і ўдзельнічаючы ва ўсёй гэтай трагікамедыі, міжволі вар'яцееў з ладу нашае краіны. Ну, заміне некаму выгляд голага цела ў самым канцы пляжаў Мінскага мора — не ідзіце туды.

З такімі падыходамі і з музеяў хутка запатрабуюць павымаць скульптуры і карціны з выявамі неапранутага цела. У статуі Апалона таксама можна ўбачыць геніталіі, якія вас павінны абурыць да глыбіні душы.

**Андрэй, відавочца**

# Беларуская глыбіня. **Бабуля Марыя**

Піша **Павел Севярынец**.

*І гаворыць Ёй анёл:*
*«Не бойся, Марыя,*
*бо знайшла Ты*
*ласку ў Бога»*
*Лукі 1:30*

Бабуля памерла.

Паклалі яе ў светлы пясок побач з мужам, маім дзедам-франтавіком, пад дубамі на высокім правым беразе Дняпра. Дняпро тут шырокі, ціхі, калі доўга глядзіш, здаецца, што крыж на магілках разам з вёскай адплывае кудысьці на Поўнач.

У нашай сям'і бабуля Марыя (або, як усе называлі, баба Маруся) была апошняй з галоднага ваеннага пакалення. Нарадзілася ў часы беларусізацыі, у 1926-м, пад Рагачовам. Дзіцём ледзь ацалела ў галадаморы. У вайну з вяскоўцамі з роднай Крушынаўкі сышла ў лес. У партызаны? Не, проста ў лес, было страшна і кругом забівалі. Пра партызанаў гаварыла цішком, гледзячы кудысьці міма: «Розныя былі, унучак... Хтосьці мо й ваяваў, а каторыя хадзілі ў людзей апошняе забіралі». Не было чаго есці. Варылі і лебяду, і крапіву. Недаяданне, голад, прага пад'есці дасыта — мы ўжо і забыліся, як яно жарэ чалавека знутры.

Пасля вайны ў цельніку, знятым з забітага немца, і двух гумавых ботах рознага колеру, Марыя прыехала ў вучэльню ў Жыровічы. На ўсю стыпендыю купляла хлеба ды булачак, каб везці галодным сваякам — не заставалася грошай нават на квіток дахаты, ехала на падножцы вагона.

Потым уладкавалася на пошту і мусіла перавозіць вялікую торбу з лістамі лодкаю цераз Дняпро — масты стаялі ўзарваныя.



Баба Маруся з унучкай і праўнукамі.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Гэта тады бабуля злавіла рукамі аграмаднага шчупака: увесну на залітым Дняпром лузе ў адной з пратокаў паўзло-перакочвалася паласатае «бервяно». Бабуля кінула торбу на сухое, упала пластом на пачвару, абняла яе і загаласіла на увесь свет: «А людцы! А родненькія! Ратуйце!..»

Выцягвала, смажыла ды ела таго шчупака ўся вёска.

І аднойчы пасля танцаў, з кавалерам, што няўклюдна пераступаў пратэзам, яны выцягнулі лодку на дняпроўскі пясок і зайшлі ў тую хату на крутым правым беразе, сярод ігрушаў, яблыняў ды вішняў, хату, у якой замест падлогі быў ток, хату, поўную пакінутых маёй памерлай ад тыфу прабабкай Таццянай дзетак.

— Пашкадавала я тады... не столькі яго, колькі малечу сіроцкую, — казала потым бабуля Марыя і ціха, стрымана ўсміхалася. Высокі, прыгожы дзед Павел ужо тады, 26-гадовы, быў без адной нагі, адцятай на фронце мінамётным выбухам па калена. І хай як заўгодна збыткуюць з кахання-шкадобы — я за, і заўжды буду за, бо сам унук шкадобы.

Потым, калі ў дзеда спаралізавала палову цела са здаровай нагой і ён мусіў перасоўвацца ў калясцы, адзінай здаровай рукой упарта сек дровы, прыбіраў на двары, лушчыў «квасолю» ды кукурузу — бабуля любоўна пасмейвалася й ціхенька ківала суседкам — бач, з адной рукой застаўся, а гаспадар. Кажу вам, гэта было каханне, хай сабе за семдзесят, але сапраўднае, перад якім хочацца проста заплюшчыць вочы.

Бабуля Марыя дала мне жыццё двойчы. Першы раз — калі нарадзіла сына Кастуся, майго бацьку, што даглядаў і дзеда, і яе апошнія гады. Другі — калі ўратавала мяне, гадавалага, ад смерці.

«Дактары ад цябе ўжо адмовіліся, — расказвалі бацькі, — Сказалі: куды, такая дызентэрыя, не жылец...» Прывезлі ў вёску — развітацца з бабуляю ды закапаць. «Ты быў маленечкі, сіненькі-сіненькі, і не еў анічоганькі, толькі енчыў, — згадвала бабуля. — Адпаіла цябе конскім шчаўем ды малачком». І бабуля Марыя ледзь заўважна пасмейваецца: перамагла-такі яе, злую смерць. Калі агаломшаныя тата з матуляю прыехалі з аршанскага Пагоста, дзе тады жылі і працавалі, і радасна кінуліся мяне абдымаць, я з крыкам «Мама!» схаваўся на руках бабулі.

Жывыя, нават гарэзлівыя чорныя вочы, шчокі здаровага румянку, срэбная сівізна, каржакаватая постаць, і ўсё цела нахіленае наперад як супрацьвага ношы за плячыма. Невысокая, ёмістая, зараджаная, яна паспявала ўправіцца ў хляве, і на гародзе, і на рэчцы з бялізнай, і на далёкіх п а й к а х з сенам для каровы, і збегаць у лес па чарніцы ды баравікі. І гэта ёй, працаўніцы, каторая цягнула, лічы, дзве сям'і, сталінская дзяржава не выдавала пашпарта, каб замацаваць савецкі прыгон, ажно да часоў застою.

Неяк спрачаліся з бабуляй, на якой мове яна размаўляе. «Ай, можа й па-рускy», — зухавата адбівалася яна. Некалькі дзён занатоўваў яе самыя ўжывальныя словы. Дзве траціны аказаліся чыста беларускія, 30% — трасянкі (расейскія словы з тэлевізара, прагавораныя з беларускай фанетыкай), астатняе — тутэйшыя дыялектныя.

«Мама, калі Вы прагаласуеце за Лукашэнку — Вашага ўнука Пашку пасадзяць», — яшчэ ў 2001 даводзіў ёй тата. Так бабуля Марыя стала вызбаршчыцай дэмакратаў.

Цяпер, па яе смерці, адчуваеш пранізліва й востра: летнія месяцы, калі бацькі адпраўлялі нас у вёску, былі проста святам жыцця.

Унорыца. Вёска, выцягнутая ў дубах ды бярозах уздоўж высокага правага дняпроўскага берага. На дзень нараджэння бабулі Марыі, пад Вялікдзень, — быццам нявеста, у аблоках квітнеючых садоў, уся ў россыпах белых пялёсткаў... Каменка, малады лясок побач, поўны чырвонагаловых падасінавікаў і ўлюбёных бабуліных крэпкіх зялёных *сыраежак*... Рака. Неаглядная плынь вады, далёкі пошум маторак. Хата на беразе, з гарода прыступкі спускаюцца ў самы Дняпро, там калінавы зараснік і раптоўны выбух язміну...

Бабуліна Унорыца з яе гародам, кароўкаю, свежыной, сырадоем, рыбаю, ягадамі ды яблыкамі заўжды была раздоллем ядомага, раем сакавітае смакаты. Бабуля, што недаядала ў сваю найлепшую пяшчотную пару, заўжды выстаўляла на стол усё, што было ў хаце — ад вяндліны ды кілбасаў, заліўное рыбы і вантрабянак да пірагоў, тваражкоў, ягадаў з цукрам і смятанкаю. Прападала ў бульбе ды ў лесе, здавала яблыкі, рабіла закаткі, размяркоўвала і ўраджай, і пенсію, і заробкі на кірмашы з грыбоў-ягадаў паміж сынамі і ўнукамі, нягледзячы на іх пярэчанні, каб, крый Божа, ніхто не застаўся галодны.

Колькі гадоў таму ў бабулі адабралі апошнята кабанчыка. Забаранілі сыны — бо васьмідзесяцігадовая, з анямелымі рукамі, яна ўсё надрывалася, цягала вываркі ў хлеў. Было шмат угавораў, крыку і слёзаў... Сышліся на курах.

Апошні месяц бабуля, каторая цэлае жыццё карміла ўсіх блізкіх, піла толькі ваду. Сцюдзёную-сцюдзёную. Нават ад булёнчыка ці кампоціка ёй рабілася млосна. А вакол усё аж буяла, спела, налівалася сокам, смажылася да духмяніла...

І тады простая беларуская сялянка з біблейскім імем Марыя, падобная то на сястру Марфы, то на Марыю Магдаліну, то на Матулю Гоcпада, маці трох сыноў, бабуля сямёх унукаў і прабабка сямёх праўнукаў, стомлена легла ў светлы, амаль празрысты дняпроўскі пясочак. І паплыў над ракою крыж.

І паляцела душа, лёгкаялёгкая, зрабіўшы развітальнае кола па-над плоднай, у яблыках белага наліву, кроплях парэчак, з пахам цёплага хлеба Унорыцай, над грыбной Каменкай, лугам, дзе пасвілі кароў, царквой у суседняй Азершчыне, туды, дзе нарэшце няма ані голаду, ані клопату, ані смерці — куды паклікаў Марыю Бог.

*Куплін*

**Бабуля ўратавала мяне, гадавалага, ад смерці. Адпаіла конскім шчаўем ды малачком »**

# Гісторыя Беларусі. Частка XXIX

# Брама ў XII стагоддзе

Піша **Алег Дзярновіч.**

Мінаюць часы Усяслава — апошняга полацкага князя, уладаранне якога вызначала цэлую эпоху. XII стагоддзе ў гісторыі Полацкай зямлі выглядае ўжо як мазаіка. Не, драбнеюць не людзі, проста з'яўляецца больш разнастайнасці — гарадоў, княстваў і князёў. У пэўным сэнсе, гэта таксама сведчанне поступу цывілізацыі.

Сур'ёзныя сацыяльна-прававыя змены адбыліся ва ўсёй Усходняй Еўропе. Полацкая зямля і ў гэтых працэсах здабыла апрычоную пазіцыю.



**Помнік Барысу Усяславічу ў Барысаве.**

### Як лічыць род?

Сталыя праблемы з легітымнасцю правоў на ўладанне, а таксама вострая небяспека для паўднёвых княстваў з боку полаўцаў прымусілі рускіх князёў шукаць новыя варыянты прававой сістэмы ўлады Рурыкавічаў над Руссю. Дагэтуль на Русі дзейнічаў старажытны прынцып перадачы ўлады ці маёмасці ад брата да брата. У генеалогіі такая сістэма адліку сваяцтва вядомая нам як «германская» — ступень крэўнасці ўсталёўваецца ў адным пакаленні, якое мае супольнага продка. У германскім праве родныя браты будуць належаць да I ступені сваяцтва. Так і кіеўскія князі бачылі ўсю Русь калектыўным даменам Рурыкавічаў, размеркаванне княжанняў адбывалася паміж братамі, што рэгулярна спараджала нават узброеныя канфлікты. Падобныя праблемы будуць паўставаць у XIV ст. у ВКЛ, калі вярхоўную ўладу ў дзяржаве таксама дзялілі браты —Альгерд і Кейстут, Ягайла і Вітаўт... Рэшткі германскай сістэмы захаваліся нават у сучасным шлюбным праве — у прынцыпе вызначэння крэўнасці сваякоў ды адпаведных забаронаў на шлюб.

Рымская сістэма выводзіла прыярытэт сваяцтва па простай лініі — ад продка: ад бацькі да сына. Тут родныя браты аказваліся сваякамі II ступені. Развіццё грамадства і, верагодна, уплыў царквы, прымушаў рускіх князёў рабіць выбар на карысць рымскай сістэмы, якая пакідала менш розначытанняў у вызначэнні пераемніка і спрыяла перадачы тытула і маёмасці па адной лініі. Рымская сістэма сваяцтва, дарэчы, стала асноўнай у сучасным грамадзянскім праве.



**Выгляд царквы Св. Барыса і Глеба ў XIX ст.**

### Любецкі «снем»

З мэтаю ўрэгуляваць спадчынныя справы ў 1097 князі сабраліся на тэрыторыі Чарнігаўскай зямлі, у Любечы на Дняпры. Княскія нарады ці сустрэчы саюзных войскаў, якія мы сёння назвалі б «з'ездам», называліся ў стараславянскай мове словам «снем».

У Любецкім снеме ўзялі ўдзел шэсць самых уплывовых князёў Русі, нашчадкаў Яраслава Мудрага (978—1054). На той сустрэчы было дасягнутае пагадненне пра тое, што «кожны хай трымае вотчыну сваю». «Вотчына» тут была сінонімам удзельнага княства. Такім чынам, Любецкі снем абвясціў прынцып атрымання ў спадчыну князямі земляў сваіх бацькоў.

Гэтым рашэннем быў пахаваны родавы сюзерэнітэт як форма ўлады на Русі. Адначасова быў дадзены імпульс феадалізацыі грамадства — Русь у гэтым сэнсе заўважна адставала ад цэнтральнаеўрапейскіх суседзяў. Юрыдычнае замацаванне вотчын за князямі стварала падставы для фармавання буйнога землеўладання, на базе якога магла развівацца феадальная сістэма. Бо вотчына выступала як спадчыннае (ад бацькі) зямельнае ўладанне з правам яго продажу, закладу, дарэння, і адпавядала такім заходнееўрапейскім тэрмінам як алод і боклend. Гэта важны сацыяльны механізм палітычнай і маёмаснай разнастайнасці будзе пазней згорнуты ў Маскоўскай дзяржаве, калі цары пачнуць знішчаць пласт вотчыннікаў, замяняючы іх залежным ад сябе дваранствам.

Пасля Любецкага з'езда «Руская зямля» была падзеленая. Святаславу Ізяславічу, што некалі па волі бацькі сядзеў у захоленым Полацку, як старэйшаму, быў пакінуты Кіеў разам з Туравам і Пінскам. Уладзіміру, у будучыні вядомаму як Манамаху, дасталося Пераяслаўскае княства і Смаленск. Алегу і Давыду Святаславічам — Чарнігаўская зямля, Давыду Ігаравічу — Уладзімір-Валынскі з Луцкам, Васільку Расціславічу — Перамышль. У гэтым спісе мы не знойдзем Полацка — князь Усяслаў, верагодна, не быў нават запрошаны на Любецкі снем. Полацкая зямля ўспрымалася як асобнае палітычна-дзяржаўнае ўтварэнне, на якое карпарацыя Рурыкавічаў не мела легітымных правоў. Між тым, Паўднёвая Беларусь заставалася ў сферы ўплыву Кіева, і гэтую тэндэнцыю змогуць пераадолець толькі працэсы ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, што прывядуць да кансалідацыі края.

Таксама мы бачым яшчэ адно прачытанне тэрміна «Русь»: апроч пастваражскага і канфесійнага вызначэння, Русь у свядомасці сучаснікаў успрымаецца як былы дамен Рурыкавічаў. І «такая» Русь ужо не ўключае ў свой склад Полацкую зямлю, хоць, паводле культурна-рэлігійных прыкмет, апошняя ўспрымалася жыхарамі Усходняй Еўропы і замежнікамі як частка Русі.

Любецкі снем 1097 як бы адчыняў браму ў новую палітычную і сацыяльную эпоху — XII стагоддзе.

### Сыны Усяслава

А што тым часам адбывалася ў Полацкай зямлі? Пасля смерці Усяслава ў 1101 Полацкая дзяржава таксама пачынае дзяліцца. Таму для нас прынцыповае значэнне мае колькасць сыноў полацкага князя. Імя яго жонкі нам невядома, у крыніцах мы сустракаем наступныя імёны сыноў князя: Давыд, Глеб, Рагвалод, Барыс, Раман, Расціслаў, Святаслаў. Нібыта, сем. Але на аснове пазнейшых, з XVII ст., крыніц існуе традыцыя атаясамлення Барыса з Рагвалодам — адно з яго імёнаў быццам было хрысціянскім, а другое — родавым. Сын Барыса таксама атрымае імя Рагвалод — так гэтая галіна роду замацавала імя заснавальніка дынастыі па жаночай лініі.



**Барыс едзе на княжанне ў Полацк. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу (XV ст.).**

Спрэчным застаецца і пытанне старшынства братоў, і тое, хто пасля Усяслава сеў на полацкі стол. Раней першынцам традыцыйна лічыўся Давыд, але яшчэ з XVIII ст., ад стваральніка расійскай гістарыяграфіі Васіля Тацішчава ідзе традыцыя называць Барыса першым вядомым полацкім князем пасля Усяслава. Гэтага ж погляду трымаліся беларускія гісторыкі Мікола Ермаловіч і Эдуард Загарульскі.

Трэба прызнаць, што вакол праўдзівасці паведамленняў Тацішчава даўно ідзе дыскусія. Лічыцца, што расійскі гісторык меў доступ да мноства тых пісьмовых гістарычных крыніц, якія не дайшлі да нашых дзён, у тым ліку, да Полацкага летапіса. Скептыкі, сярод якіх украінскі гісторык Аляксей Талочка, не прымаюць на веру апісаньня Тацішчавым падзеі, на якія няма ўказання ў іншых крыніцах, ды сцвярджаюць, што спасылкі на крыніцы Тацішчаў містыфікаваў. Таму прымем такую мадэль паводзінаў: звесткі Тацішчава, якія знаходзяць пацверджанне ў іншых крыніцах, з пэўнай доляй верагоднасці можна выкарыстоўваць.

### Князь Барыс

З князем Барысам звязаныя многія падзеі ў Полацкай зямлі і вакол яе на пачатку XII ст. Барыс разам са сваім бацькам Усяславам у 1067 сядзеў у кіеўскім «порубе». Было яму ў той час гадоў 13—15.

Тацішчаў паведамляе, што ў 1102 Барыс заснаваў горад, які атрымаў назву ў яго гонар — Барысаў. Паводле Тацішчава, у той год Барыс спачатку рушыў на яцвягаў, а ўжо пасля ўдалай выправы вярнуўся назад ды паставіў новы горад. Такім чынам, Полацк прасоўваўся ў Панямонне, што будзе мець значныя наступствы ў XIII ст. Познія беларуска-літоўскія хронікі XVI ст. таксама называюць князя Барыса стваральнікам новага фарпоста на рацэ Бярэзіне. А сама форма суфікса прыналежнасці «-аў» указвае на паходжанне назвы ад імя асобы.

Уладаранне Барыса было адзначанае таксама пабудовай мураванага Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцах пад Полацкам. Манастыр быў заснаваны на левым беразе Дзвіны, за гарадской рысай тагачаснага Полацка, і налічваў не менш за чатыры храмы: «Вялікі сабор» (сапраўдная назва яго нам невядомая), Пятніцкую і Барысаглебскую цэрквы, а таксама храм-трыконх. Апошні тып храмаў, прыўнесены з візантыйскіх Балканаў, быў досыць арыгінальным і экзатычным для нашых земляў — трохпялёсткавы план царквы ствараецца апсідамі, якія з трох бакоў прымыкалі да квадратнага ўнутранага памяшкання.

Полацкая Сафія XI ст. была ўнікумам, які ў кампазіцыйным сэнсе не мае працягу. А пра адметную Полацкую архітэктурную школу мы можам казаць, пачынаючы менавіта з храмаў Барысаглебскага манастыра. Верагодна, не ўсе яны былі пабудаваныя за князем Барысам, але менавіта ў яго час пачаўся працэс забудовы манастыра ў Бельчыцах, прысвечанага нябеснаму патрону князя.

Пэўны час лічылася, што ў Бельчыцах была рэзідэнцыя полацкіх князёў і іх родавы некропаль. Апошнія даследаванні паказваюць, што княскі двор знаходзіўся на тэрыторыі так званага Гарадзішча на рацэ Палаце. Але ўсё ж існуюць розныя прыгадкі Бельчыцаў у кантэксце прысутнасці там свецкіх уладаў у XII—XV стст. — відавочна, манастырская фартыфікацыя на шляху да Менска выконвала не толькі царкоўныя функцыі.

У перабудаваным выглядзе Барысаглебская царква і рэшткі яшчэ адной дайшлі да XX ст., але ў 1930-я храмы былі разабраныя вязнямі турмы НКВД на цэглу для пабудовы жылля іх турэмшчыкаў.

*Пра полацкае веча, выгнанне князёў і часовае ўзвышэнне Менска чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».*

# Фэст у Вайцюшкевіча

## ФУТБОЛ

### «Мінск» — «Сэнт-Джонстан»




**У чацвер 1 жніўня** адбудуцца матчы трэцяга кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы. «Мінск» у Гродне прыме шатландскі «Сэнт-Джонстан». Пачатак а 19.00. Білеты — 15-25 тысяч.

У той самы дзень у Брэсце згуляюць мінскае «Дынама» і турэцкі «Трабзанспор». Пачатак а 19.00. Білеты пад дах — 30 тысяч, астатнія — 15.

Гуляюць не ў Мінску, бо ў сталіцы на дадзены момант няма добрых стадыёнаў.

### Тур 19

**3—4 жніўня** адбудуцца матчы чарговага тура чэмпіянату Беларусі.

У суботу сустрэнуцца:
«Нафтан» (Наваполацк) — БАТЭ (Барысаў);
«Гомель» — «Белшына» (Бабруйск);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Славія» (Мазыр).
У нядзелю:
«Дынама» (Мінск) — «Дынама» (Брэст);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Нёман» (Гродна);
«Дняпро» (Магілёў) — «Мінск».



**Фестываль шансона і аўтарскай песні адбудзецца 3-4 жніўня.** У першы дзень выступяць Зміцер Вайцюшкевіч і Зміцер Бартосік, а ў другі — Віктар Шалкевіч. Мерапрыемства пройдзе ў сядзібе Вайцюшкі (вёска Васілевічы Навагрудскага раёна) за 170 км ад Мінска. Кошт удзелу ў фэсце 80 000 рублёў. Людзям у нацыянальных строях зніжка 25%. Адпаведна, цана для іх 60 000. У цану ўключана: купанне ў Нёмане, збіранне грыбоў, юшка). Дзеці да 12 год — бясплатна.

СЯРГЕЙ ЗІНІН

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**1 жніўня** генералы айчыннага року, гурт Neuro Dubel вяртаецца на сцэну «Графіці» (зав. Калініна, 16), каб сыграць паўнаварты электрычны канцэрт у сценах утульнага клуба. Пачатак а 19.00.

### Аракелян «Flashbacks»

**6 жніўня** дуэт джазавага музыканта і кампазітара Паўла Аракеляна (клавішы) і вакалісткі Алены Аракелян прэзентуе новую аўтарскую англамоўную праграму Flashbacks. Канцэрт будзе ў Loft cafe (Броўкі, 22). Пачатак а 19.00.

### Наваградскі край вачыма Канута Русецкага



**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.




## ІМПРЭЗЫ

### Экспедыцыя — 2013

**2—4 жніўня ў Плешчаніцах** пройдзе міжнародны фестываль-злёт аматараў актыўнага адпачынку «Экспедыцыя — 2013». Трохдзённы экстрэмальны марафон на прыродзе праводзіцца ў спрадкаваным турыстычным лагеры — на базе адпачынку «Экспедыцыя». Усе ахвотныя могуць зладзіць спаборніцтва на квадрацыклах і аквабайках, экстрэмалы — фарсіраваць «гразевую трасу» і паласу перашкод, таксама будзе разыграна чэмпіёнства ў футболе, валейболе і бадмінтоне.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава «Прэс-фота Беларусі 2013»

**Да 21 жніўня ў галерэі Tut.by (Харужай, 1а, 6 паверх)** адбываецца выстава «Прэс-фота Беларусі—2013» з найлепшымі працамі фатографаў у сферы медыя. Час працы: 9.00-18.00

### Выстава аўтарскай лялькі

**Да 15 верасня** праходзіць выстава аўтарскай лялькі Кацярыны Пуставалавай у Дзяржаўным музеі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны зав., 5). Увасабленне візуальнага вобраза лялькі, стварэнне «новага свету» — асноўная задача мастака. Яе работы непарыўна звязаны з тэатральным мастацтвам, у якім жывуць і дзейнічаюць яе героі.

### Персанальная выстава Уладзіміра Акулава

**Да 24 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (Незалежнасці, 47)** у межах персанальнай выстаўкі прадстаўлены творы графікі і жывапісу Уладзіміра Акулава апошніх гадоў з асабістай калекцыі аўтара, а таксама з прыватнага збору калекцыянера і мастака Андрэя Плясанава.

### Міракль аб Уршулі

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры філіял «Гасцёўня Ул.Галубка» (Старавіленская, 14)** запрашае на выставу партатыўных лялечных тэатраў з тэатра-студыі «Мірская батлейка» «Міракль аб Уршулі»: партатыўны лялечны тэатр.

## КІНО

### Расамаха ў Японіі

Расамаха: Несмяротны
Баявік, фантастыка
**Рэжысер:** Джэймс Мэнгалд
**У ролях:** Хью Джекман, Тао Акамота, Ріла Фукусіма, Святлана Ходчанкава, Уіл Юн Лі, Харукіка Яманоуті
ЗША, 126 хв.

Гэтым разам мінулае выцягвае Логана, чалавека са звышздольнасцямі, з яго пячоры з дапамогай японскай дзяўчыны Юкіа. Яна мусіць прывезці Логана развітацца з былым знаёмцам Яшыдам, які памірае. Але паміраць дужа не хочацца, і ён прапануе Логану абмен: несмяротнасць на жыццё звычайнага чалавека, чаго Расамаха прагнуў увесь час. Забраць у Логана ўнікальную магчымасць хутка рэгенераваць, Яшыда намагаецца з дапамогай сваёй новай лекаркі — мутанта Гадзюкі (у выкананні расейскай актрысы Святланы Ходчанкавай), спецыялісткі па біяхіміі і атрутах. Але на ўсё так проста ў сям'і Яшыды...

Шосты раз Х'ю Джэкман пераўвараецца ў Расамаху — гэта найбольшы паказчык для коміксавага героя. Храналагічна падзеі адбываюцца пасля распаду аб'ядналня «Людзей Ікс»і гібелі каханкі Логана Джын Грэй (Фенікс), якая цяпер з'яўляецца Логану толькі ў снах.

Японскі антураж дадае фільму каларыту: бойкі з Чорным кланам ніндзя пастаўленыя памайстэрску. Прысутнічае нават рытуальнае сэпуку. Фільму стае відовішчнасці (бітва з Срэбным самураем, бойка ў хуткасным цягніку), але акцэнт зроблены на асабістых трагедыях Логана, што надае глыбіні і персанажу, і стужкы.

**Настасся Уласава**



# Прапаганда і спорт у добрай якасці

Як нядорага перайсці на лічбавае тэлебачанне?

Ад раніцы 1 жніўня старыя тэлевізары жыхароў Асіповіччыны не пакажуць ніводнага канала. На гэты дзень прымеркавана адключэнне эфірнага аналагавага тэлебачання ў першым з рэгіёнаў Беларусі. Праз пару месяцаў чарга на адключэнне дойдзе да Жлобіна і Бабруйска.

Выкананне плана па пераводзе краіны на лічбавае вяшчанне адкладалася некалькі разоў, але нарэшце пачынае рэалізоўвацца. Якія перавагі атрымаюць гледачы? Раней антэны каля іх тэлевізараў дазвалялі злавіць тры-чатыры каналы. Напрыклад, пад Асіповічамі можна было глядзець «Беларусь-1», СТБ і «РТР-Беларусь».

Цяпер жа ўдасца ўбачыць у палепшанай якасці карцінкі і гуку восем тэлеканалаў і адзін радыёканал. Што для гэтага трэба зрабіць?

### Новы тэлевізар — і праблем няма

Калі ў вас стаяць антэна і тэлевізар, які падтрымлівае стандарт DVB-T і фармат сціскання MPEG-4 AVC/H.264, то больш нічога купляць не трэба, дастаткова запусціць аўтаматычны пошук каналаў.

Даступнымі ў лічбавым фармаце будуць «Беларусь 1», «Беларусь 2», «Беларусь 3», АНТ, СТВ, «НТВ-Беларусь», «РТР-Беларусь», «Мір», а таксама Першы канал Беларускага радыё

У час пераходу краіны на эфірнае лічбавае тэлевяшчанне працуе даведкавая служба, даступная па кароткім нумары 172

**Графік адключэння аналагавага тэлебачання на бліжэйшы час**

**2013**

1 жніўня — Асіповічы

1 кастрычніка — Жлобін, Бабруйск

1 лістапада — Касцюковічы

**2014**

1 красавіка — Беразіно, Шаркаўшчына, Лунінец, Гомель,

15 мая — Магілёў, Віцебск, Петрыкаў

1 чэрвеня — Брагін, Брэст, Драгічын.

Большасць новых мадэляў — і замежных, і «Гарызонтаў» з «Віцязямі» — з гэтым стандартам працуюць. Тэлевізары з невялікім экранам (каля 20 цаляў) каштуюць ад 2 мільёнаў рублёў.



Разнастайнасці на экранах пабольшае, але ненашмат.

### Новы фармат за пяць хвілін

Калі ж тэлевізар стары і патрэбны стандарт не падтрымлівае, давядзецца набыць спецыяльную прыстаўку — лічбавы цюнер. Іх вытворчасць арганізаваў «Віцязь» і яшчэ некалькі беларускіх кампаній. Самая недарагая прыстаўка, напрыклад, «Віцязь» DTR-816 FTA, каштуюць каля 350—400 тысяч рублёў. Меркаванні пра якасць гучаць, мякка кажучы, супярэчлівыя.

Можна падабраць і замежныя аналагі за тую ж цану. Але звярайце ўвагу, каб на тэлевізары і прыстаўцы былі аднолькавыя раздымы.

Само падключэнне «паповаму» зойме некалькі хвілін. Штэкер антэны трэба дастаць з тэлевізара і ўставіць у прыстаўку. А прыстаўку і тэлевізар злучыць між сабой дротам, які будзе ісці ў камплекце. Пасля чаго ўключыць на блакітнай скрыні рэжым AV і націснуць на пошук каналаў.

Але без антэны і ў выпадку з прыстаўкай не абысціся.

### Вясковы варыянт

Эфірным тэлебачаннем карыстаюцца перадусім у вёсках і малых гарадах, дзе няма кабельнага вяшчання. Усё ж восем каналаў — гэта нямнога ў параўнанні з некалькімі дзясяткамі праграм, якія транслююць кабельныя аператары. Ды і ў вёсках многія ставяць сабе спадарожнікавыя талеркі, каб стаць незалежным ад густаў Белтэлерадыёкампаніі.

**Ягор Марціновіч**



### Сцісла

**Пасажыраў на Вільню будуць правяраць у Мінску**

На вакзале Мінск-Пасажырскі з'явіцца пункт памежнага кантролю для пасажыраў, якія едуць у Вільню і адтуль.

**Самы актыўны турыст**

Нацыянальнае агенцтва па турызме пачынае конкурс «Спазнай Беларусь». У адной з намінацый выберуць самага актыўнага турыста. Пераможа той, хто дашле найбольшую колькасць сваіх фотаздымкаў на фоне турыстычных аб'ектаў Беларусі. У прапанаваным спісе 560 вартых увагі мясцін. Усе фотаздымкі павінны быць зробленыя не раней за 27 верасня 2012.

**«Прывалка» закрыецца ад 1 верасня**

На пункце пропуску «Прывалка» (на беларуска-літоўскай мяжы, паміж Гроднам і Друскенікамі) чакаецца завяршальная фаза рэканструкцыі. Старыя будынкі знясуць, пашыраць палосы руху. Аднаўлены пункт адкрыецца 15 кастрычніка.

**ЯМ**

# У Мінску адчынілася «Велакухня»

Двойчы на тыдзень — бясплатны рамонт ровараў.

У ціхім сталічным дворыку каля касцёла Святога Роха (раён плошчы Перамогі) адбылося адкрыццё велакухні «Гараж 38» ці, кажучы простай мовай, — роварнай майстэрні, у якой кожны ахвотны можа зусім бясплатна парамантаваць свой ровар ці атрымаць парады, як гэта зрабіць.

«Велакухня» — з'ява не новая. Свой шлях яна пачала з ЗША, і даволі хутка распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе.

Ініцыятарам беларускай «Велакухні» быў актывіст Джон Росмэн. У пачатку 90-х ён з'ехаў з роднага Нью-Ёрка, працаваў праграмістам у Расіі, але хутка ў ёй расчараваўся: «Калі я пачаў у Расіі ўласны бізнэс, я зразумеў, што гэта абсалютна бандыцкая дзяржава». Тры гады таму ён перабраўся жыць у Беларусь, адмовіўся ад грамадскага транспарту і цяпер карыстаецца толькі роварам. Пабачыўшы падобныя да «Велакухні» месцы за мяжой, Джон вырашыў зрабіць нешта і ў нас.

Гараж даў у карыстанне адзін з валанцёраў. Майстэрня гэта — не камерцыйны праект, яна будзе працаваць пакуль два разы на тыдзень. Графік працы на бліжэйшы час: ад 18-й да 21-й штосераду і шточацвер.

**Вольга Гарапучык**


«Гараж 38» дасць інструмент кожнаму ахвотнаму.

### Прыватныя абвесткі

**ЗГУБЛЕНЫ АТЭСТАТ**

**Лічыць дакумент №А1556854** на імя Ірыны Андрэеўны Вятохінай несапраўдным.

**ШУКАЮ**

**Алена Уладзіславаўна Тукала з Алматы шукае ў Беларусі сваякоў** сваёй бабулі Соф'і Андрэеўны Тукалавай (дзявочае прозвішча Калевіч) (1907—2004), якая нарадзілася на хутары пад Гарадзішчам. Сувязь са сваякамі (Калевіч, Сімончык, Калядка) была да канца XX ст. Сваякі жылі ў Баранавічах, Брэсце, Слуцку, Мінску і іншых месцах. Тэл.: 8 (017) 230-01-11, Наталля Васільеўна.

**АРЭНДА**

**Шукаю 1-2-пакаёвую кватэру ў Брэсце** на доўгі тэрмін з тэлефонам і інтэрнэтам. Не п'ю, не палю і паводжу сябе прыстойна. Парадак, адэкватныя паводзіны і своечасовую аплату гарантую. Т.: (029) 865 73 88 (МТС), 8 (025) 672 51 05 (Life:), Настасся

**Маладая жанчына наймае** адна-двухпакаёвую кватэру на працяглы тэрмін (ад года). Можна без мэблі, але з абсталяванай кухняй і магчымасцю ўсталяваць інтэрнэт. Пажаданыя раёны: Лошыца, Серабранка. Разгледжу ўсе варыянты. Т.: (025) 790-98-09.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Патрыярх Кірыл на Мінскім замчышчы. Кіраўнік РПЦ прыбыў у сталіцу Беларусі на святкаванне 1025-годдзя хрышчэння Русі. Паслухаць патрыярха прыйшло 30 тысяч чалавек.



На тым тыдні ці не ўвесь свет сачыў за нараджэннем наследнага прынца Вялікабрытаніі. Дзіця нарадзілася ў прынца Уільяма і герцагіні Кембрыджскай Кейт Мідлтан. Хлопчыка назвалі Джордж. Вага — 3,8 кілаграма. Ён стаў трэцім у чарзе на брытанскі пасад.



Ідэалагічна правільны балкон у Мінску. Фота даслаў чытач.



Былы прэзідэнт ЗША Джордж Буш-старэйшы пагаліў галаву, каб падтрымаць хворага на лейкемію хлопчыка, сына ўласнага ахоўніка. У самога Буша 60 гадоў таму ад лейкеміі памерла дачка Робін.



## Анекдоты і жарты

* * *

Санкцыі з Макея знялі на той умове, што сёлета БАТЭ ня будзе перамагаць «Баварыю».

* * *

Вентспілс, Караганда і Барселона — нязручныя супернікі для БАТЭ.

* * *

Пасля таго, як Пуцін перад тэлекамерамі пацалаваў шчупака, усім стала зразумелай прычына яго разводу.

* * *

Мне патрэбныя моцныя эмоцыі. Пайду праверу запазычанасці па крэдытах.

* * *

Пераходны ўзрост — гэта калі ў спёку не ведаеш, чаго больш хочацца: марозіва ці піва.

* * *

У залежнасці ад інтанацыі адно мацернае слова сантэхніка можа азначаць 50 дэталяў і прыстасаванняў.

* * *

Работнікі тытунёвай фабрыкі бегаюць за вугал падыхаць.

* * *

Кіроўца маршруткі, які выпадкова заехаў на трасу «Формулы-1», перамог, пры гэтым паспеў падабраць па дарозе двух пасажыраў.

* * *

Маёр выклікае да сябе шарагоўца.

— Пятроўскі, ты ў жыцці пасля смерці верыш?

— ???

— Цябе на КПП чакае бабуля, на пахаванне якой ты два тыдні таму ездзіў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Жывуць чарнігаўскія беларусы дужа бедна**, бо сядзяць на землях неўраджайных, але лясістых. Лясы даюць чарнігаўцам немалы прыбытак з грыбоў і ягад. Беларускае адраджэнне, як вясенняя ластавачка, далящела і сюды. За апошнія два гады ў Чарнігаве было выдадзена колькі беларускіх кніжак, а паэма «Тарас на Парнасе» выйшла нават двума выданнямі. Поле для нацыянальнай беларускай працы на Чарнігаўшчыне шырокае, толькі пакуль што, мала сяўцоў.

**«НН». №31. 1913.**

**Няўжо нарэшце аб'ядноюцца?** Лідары апазіцыйных партыяў (БНФ, АГП, БСДГ, працавікі, ПКБ) і дэпутацкая група «Рэспубліка» падпісалі пагадненне аб каардынацыі дзейнасці. Гэтае пагадненне, як маркуецца, стане асновай стварэння дэмакратычнай кааліцыі апазіцыйных сілаў.

**«НН». №28. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 30.07.2013.
Замова №2925.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

